ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 28 (2490)
ПЯТНІЦА
10
красавіка 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





**Анатолій Васільевіч Луначарскі. Рэвалюцыянер, вучоны, літаратар. Верны паплечнік Уладзіміра Ільіча Леніна. Першы нарком асветы Савецкай Рэспублікі. Чалавек, які стаяў ля вытокаў новай сацыялістычнай культуры...**

Гэты здымак Анатолія Васільевіча ўзяты намі з дакументальнага фільма «Вуліцы памятаюць», створанага на Гомельскай студыі тэлебачання. Рэцэнзію на яго чытайце на 7 стар.

Ала ЧАРНУШЭВІЧ

# ГЛЕДАЧАМІ НЕ НАРАДЖАЮЦЦА

**Зала перапоўнена. У зале смяюцца. Гучаць апладысменты. А вы... вы вяртаецеся дамоў з пачуццём незадавальнення. Вы лічыце, што дарма страцілі вечар...**

**А бывае наадварот. Вы з вялікай асалодай глядзіце спектакль. У ім глыбокі роздум пра жыццё, цікавыя складаныя характары, высокі прафесіяналізм стваральнікаў. А зала — паўпустая. У чым справа, чаму так адбываецца! Аб гэтым разважае ў сваім артыкуле маладая журналістка Ала Чарнушэвіч.**

НЕ ТАК ДАЎНО добра вядомая насценная газета «Рогі і капыты» «Клуба 12 крэслаў» змясціла аб'яву наступнага зместу: «Мясцоваму тэатру трагедыі і камедыі патрабуюцца гледачы. Аплата працы здзельная. Іншагароднім прадастаўляецца інтэрнат».

Тыя, хто чытаў гэтую аб'яву, відаць, пасмяяліся і забыліся аб гэтым. І нікому, вядома, не прыйшло ў галаву, што магчыма калі-небудзь нешта падобнае давядзецца вывесіць адміністрацыі іх мясцовага тэатра.

Жарт...

Але ці такі далёкі ён ад ісціны?

Мне прыгадваецца адзін выпадак. Я сяджу ў перапоўненай глядзельнай зале аднаго з нашых абласных тэатраў. Ідзе спектакль з ліку так званых «касавых». Публіка напружана сочыць за падзеямі... Раптам адзін з гледачоў, які сядзеў у другім радзе партэра, нечакана гучна кінуў нейкую рэпліку. Абапёршыся на спінку крэсла і павярнуўшыся тварам да глядзельнай залы, ён бесцырымонна абмацваў захмялелым (не ад спектакля) позіркам публіку ў пошуках магчымага апанента, з якім можна было б тут жа, неадкладна вырашыць сумненні, што ўзніклі ў яго. Хутка сігнал яго быў «прыняты» другім гледачом, які сядзеў ззаду. Завязалася ажыўленая дыскусія. І, нібы з-за нейкіх чараў, у зале імгненна адбылося расслаенне. Большасць публікі маўкліва ўключылася ў гэтую спрэчку, сёй-той абураным шэптам заклікаў п'яных малойчыкаў да парадку, і толькі нязначная частка гледачоў стаічна сачыла за тым, што адбываецца на сцэне.

Ледзь дачакаўшыся антракту, бягу за кулісы да акцёраў. Не можа быць, каб яны не заўважылі гэты дыялог—бо было гэта ля самай рампы. У думках перабіраю пытанні і адначасова шукаю падбадзёрваючыя словы.

Але яны не спатрэбіліся. Радасна ўсхваляваныя твары акцёраў менш за ўсё гаварылі аб перажытых непрыемных мінутах.

— Глупства, — сказалі яны. — Галоўнае — поўная зала...

Поўная зала... Нібы каштоўны падарунак паднеслі гледачы тэатру сваю прысутнасць. А за такія падарункі не прынята крыўдаваць. І ці варта было звяртаць увагу на тое, што нейкія дзівакі вось так выказалі сваю думку...

Няважна, у якім з абласных тэатраў гэта адбылося. Напэўна, час ад часу аналагічныя выпадкі здараюцца ў кожным. Або пустуюць глядзельныя залы, што акцёры ўспрымаюць куды больш хваравіта. І хіба толькі ў абласных?

Вось што пісала народная артыстка БССР З. Браварская аб рэакцыі работнікаў абутковага аб'яднання «Прамень» на спектакль у тэатры імя Я. Купалы: «Ішоў спектакль па п'есе Б. Брэхта «Што той салдат, што гэты». Спачатку быў урачысты сход, потым... Потым было сумна. Таму што большасць гледачоў сядзела ў буфеце, а пасля антракту многія наогул пайшлі дадому. Страсная, антыфашысцкая п'еса не кранула, не ўсхвалявала іх» («Вячэрні Мінск», 3.VI.69 г.).

Праблема «Тэатр і глядач» у апошні час усё часцей і часцей пачала хваляваць нашу тэатральную грамадскасць. І не можа не хваляваць, калі адразу пасля прэм'еры на спектаклі «Ягор Булычоў і іншыя» ў Магілёўскім тэатры зала была запоўнена толькі на адну трэць («Літаратура і мастацтва», 31.V.1968 г.). Не можа не хваляваць, калі на пытанне галоўнага рэжысёра тэатра імя Я. Коласа С. Казіміроўскага — хто сёлета быў у тэатры?—пастаўленае рабочым віцебскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», у кожным цэху ўзнялося не больш трох рук (з выступлення на апошнім пленуме БГА).

Дзе ж выйсце? «Я зусім не пра тое, што патрэбны загоншчыкі-зазывалы, якія любымі спосабамі распаўсюджваюць білеты...—пісала І. Клімашэўская ў артыкуле «Ягор Булычоў» і яго гледачы», які ўпамінаўся вышэй. — Я аб тым, што патрэбны педагогі і бацькі, якія з дзіцячых гадоў выхоўвалі б у дзіцяці цікавасць да тэатра, вучылі б яго азбуцы тэатра, фарміравалі б добры, здаровы густ». Педагогі, бацькі... Але яны таксама могуць быць рознымі гледачамі!..

«...Яшчэ ніводнага адказнага работніка ў вобласці не папракнулі за тое, што людзі яго калектыву не бываюць у тэатры. Або іншае—студэнты вельмі лёгка знаходзяць рубель, каб «скінуцца на траіх», але зусім не лічаць магчымым выдаткаваць яго на тэатр» (С. Казіміроўскі).

Мне хочацца запярэчыць. Ёсць пэўная заканамернасць эстэтычнага ўспрыняцця — эстэтычная асалода, блізкая да пачуцця свабоды, і ўсялякая спроба выключыць свабоду з эстэтычнай асалоды непазбежна ператворыць яе ў пакуту. Можна прымусіць жыць мужа з нялюбай жонкай (або наадварот жонку з такім мужам), але ад гэтага яны не стануць адзін аднаму больш прывабнымі. Магчыма, можна прымусіць гледача хадзіць у тэатр. Але ці стане тэатр яму блізкі, родны, а глядач тэатру—аднадумцам?

Што ж рабіць?

«Вось аб гэтым і трэба было б нам падумаць. Усім. Разам. Разам з гледачом»,—прапануе дырэктар Тэатра юнага гледача А. Вольскі ў артыкуле «Галоўная праблема» («Неман», № 6, 1969 г.), цалкам прысвечаным гэтаму пытанню.

Ад імя гледачоў мне і хочацца выступіць. Але гледачоў шмат і ўсе яны розныя. Таму, натуральна, мая думка асабістая. Але спрэчка ёсць спрэчка.

Перш за ўсё хочацца яшчэ раз напомніць агульнавядомыя, шмат разоў цытаваныя словы Станіслаўскага аб уплыве тэатра на гледача: «Тэатр — двухбаковавостры меч; з аднаго боку, ён змагаецца ў імя святла, з другога—у імя цемры. З той жа сілай уздзеяння, з якой тэатр надае высакароднасць гледачам, ён можа разбэшчваць іх, прыніжаць, псаваць густы, зняважаць чысціню, узбуджаць дрэнныя страсці, служыць пошласці і маленькай мяшчанскай прыгажосці».

Эстэтычнае выхаванне гледача, на думку Станіслаўскага, гэта перш за ўсё клопат саміх дзеячоў тэатра — рэжысёраў, акцёраў, мастакоў. Ад іх залежыць, наколькі абраны імі твор будзе садзейнічаць мастацкаму развіццю гледача і абуджэнню ў яго высакародных імкненняў.

А цяпер глянем на афішу вядучага тэатра рэспублікі—тэатра імя Я. Купалы. Як часта на ёй мільгае блізкая сэрцу любога тэатральнага адміністратара зазыўная назва—«Дзесяць сутак за каханне». Спектаклю яшчэ і года няма, а ён ужо адсвяткаваў свой соты паказ і ўпэўнена заваёўвае сэрцы новых прыхільнікаў.

А чаму можа павучыць гледача гэты спектакль?

Можа, таму, што перш чым разводзіцца, трэба ўсё добра абдумаць і ўзважыць? Або таму, што палітыка неўмяшання ва ўнутраныя справы маладых з боку цёшчы—самая добрая палітыка? Або што і юрысты маюць права на каханне?

Тут хачу агаварыцца, што глядзела я афішу тэатра імя Я. Купалы не адна, а з апанентам. І ўся мая гутарка аб гледачы таксама будзе з ім. Хто ён, мой апанент? Аб гэтым вы даведаецеся ў канцы артыкула. Карыстаючыся азначэннямі-характарыстыкамі герояў сучасных вадэвіляў, якія ідуць на сцэне тэатра імя Я. Купалы, назаву яго пакуль што ўмоўна—«крытык са стажам, якому шанцуе ў любві» з боку прэсы (як чытач, напэўна, здагадаўся, я адпаведна, павінна быць «крытыкам без стажу, якому не шанцуе ў любві, і прыхільнасці» з таго ж боку). Дык вось; выказаўшы думку аб спектаклі «Дзесяць сутак за каханне», я даю слова свайму апаненту.

— Спектаклі, створаныя для забавы гледача,—кажа ён,—таксама патрэбны. І гэтыя спектаклі могуць быць сур'ёзным мастацтвам, калі яны адзначаны добрай рэжысурай і акцёрскімі работамі. Ці чыталі вы ў свой час «Мінскую праўду», якая брала інтэрв'ю ў вядучых акцёраў, занятых у спектаклі? Л. Рахленка, напрыклад, гаварыў: «Такіх роляў у мяне яшчэ не было, работа вельмі, вельмі цікавая, але і складаная — вадэвіль!» А вось што сказала С. Станюта: «Я іграла з вялікім захапленнем, імкнучыся даставіць як мага больш радасці гледачам» (Мінская праўда» І.VII.69 г.).

Я не буду сутыкаць з гэтымі выказваннямі думку У. Дзядзюшкі, які пісаў, што купалаўцы аднойчы не сказалі «не!» камедыі «Мільён за ўсмешку» і тым самым дазволілі потым з'явіцца «Дзесяці суткам за каханне». Не буду, бо прывяду іншы аргумент. Тэатралы ведаюць, што акцёры ўпотай нават любяць час ад часу іграць у пасрэдных рамесніцкіх творах, бо ім здаецца спакуслівым сыграць «нешта» там, дзе ў драматургічным матэрыяле «нічога» або «амаль нічога» няма. Гэта таксама своеасаблівасць акцёрскай прафесіянальнай псіхалогіі. І нічога крыўднага для артыста, калі яму напамінаюць пра гэта, няма. Тым больш, што «Дзесяць сутак» якраз той прыклад, дзе колькі хочаце эскізных накідаў і «намёкаў» на характары, а характары — калі ласка, ствара й ты, акцёр!

Адкрыўшы мне гэтыя таямніцы акцёрскай прафесіі, апанент каршуном глянуў на мяне і падвёў рэзюме:

— Гледачам спектакль падабаецца. Акцёрам таксама. Тэатральная крытыка, апроч памянёнага вышэй артыкула «Мінскай праўды», маўчыць, а значыць згаджаецца. Дык ці варта бурчаць з гэтага поваду?

Цяжка ўстаяць перад такім напорам аргументаў. Усё гэта было б справядліва і правільна, калі б... тэатр не насіў ганаровага звання — акадэмічны. А гэтае званне, як сцвярджае «Тэатральная энцыклапедыя», даецца ў СССР буйнейшым і старэйшым тэатрам. І ён, напэўна, павінен быць узорам, арыенцірам для іншых тэатраў.

Мой сусед, малады, таленавіты фізік, калі ў нас з ім зайшла спрэчка пра гледача, з уласцівай яму рэзкасцю і шчырасцю зазначыў:

— Калі вядучы тэатр рэспублікі папулярызуе сумніцельнай каштоўнасці вадэвілі, дык якое ж дзіва, што ў Мінску публіка не тэатральная і больш аддае перавагу цырку...

Але думка маладога фізіка, хай сабе і таленавітага, як мне здалося, прыйшлася не да спадобы «крытыку са стажам». Таму я паспяшыла звярнуцца да аўтарытэтаў.

Выдатны савецкі пісьменнік С. Маршак неяк сказаў, што калі б ён сустрэў чалавека, які не любіць паэзію, дык пачаў бы так доўга чытаць яму цудоўныя вершы, што той палюбіў бы іх.

— Зноў промах, — думаю я, — гэта ж пра паэзію. — Але ўголас дадаю: — Жарт С. Маршака, відаць, можа быць аднесены і да тэатра. — І зноў чую незадаволены голас майго апанента. — Афішу тэатра імя Я. Купалы ўпрыгожвалі і ўпрыгожваюць сапраўды цікавыя і значныя спектаклі. Возьмем хаця б «На дне» М. Горкага (рэжысёр Б. Эрын). Усяго 17 разоў прайшоў ён і... перастаў існаваць. Але ж менавіта гэтаму спектаклю было прысвечана найбольш водгукаў у друку — 6 рэцэнзій (на долю трох іншых прэм'ер сезона прыйшлося тры рэцэнзіі). Або спектакль «Што той салдат, што гэты» Б. Брэхта (рэжысёр В. Раеўскі), пра які ўжо гаварылася...

Перш, чым запярэчыць субяседніку, мне хочацца падзяліцца некаторымі назіраннямі.

...Закончыўся спектакль «Традыцыйны збор». Гледачы, чакаючы ў гардэробе, дзеляцца ўражаннямі. Чую ўрыўкі размоў:

— Акцёры іграюць добра!

— Добра, то добра, але ж спектакль не скончаны... Так хацелася даведацца, кім жа працуе Усаў, ці жанаты ён, ці кахае ён Агнію!..

Мне хочацца ўмяшацца ў размову, параіць добра падумаць — бо ў спектаклі ўсё ясна, усё растлумачана. Але ці пераканаю? А гледачы забіраюць паліто, павольна ідуць да выхаду, і больш я з імі, вядома, не ўбачуся.

Другі прыклад. Тыя, хто знаёмы з п'есай «Нічога не здарылася», відаць, памятаюць, што гэта няхітрая лірычная камедыя аб каханні. Па-рознаму ставяцца героі п'есы да кахання. І рознае стаўленне да гэтага пачуцця, а, значыць, і да жыцця, адных герояў аб'ядноўвае, другіх разлучае... Пасля спектакля ў тэатры імя Я. Коласа я зноў чую тыя самыя незадаволеныя галасы гледачоў:

— Так крыўдна. Абарвалі спектакль на самым цікавым.

Такія размовы аб «незакончаных» спектаклях лішні раз пацвярджаюць увогуле вядомую, даўно адкрытую ісціну, што глядач — недалучаны да тэатральнага мастацтва або «арганізаваны», калі карыстацца тэрміналогіяй А. Вольскага, — не прывучаны да асацыятыўнага мыслення. І як жа яму так раптам разабрацца ў п'есах Б. Брэхта, з яго хорамі і зонгамі, заклікаными стымуляваць цікавасць гледача да дзеяння, а не да развязкі. Як жа яму так знянацку прывыкнуць да герояў яго п'ес — не рэальных, канкрэтных людзей, а персанажаў-абагульненняў? Тым больш, калі ўлічыць, што п'еса Б. Брэхта ў нас у рэспубліцы ставіцца ўсяго другі раз.

І тут напрошваецца сустрэчнае пытанне.

А ці спрабаваў тэатр пазнаёміць свайго гледача з драматургіяй Брэхта? Ці спрабаваў ён падрабязна абмеркаваць з гледачамі рэжысёрскі план і мастацкія сродкі будучага спектакля, пагаварыць з ім аб пастаноўках гэтай п'есы ў іншых тэатрах, выкарыстоўваючы для гэтага, скажам, тэлебачанне? Бо глядач, аматар і прыхільнік «закончаных» спектакляў — таксама любіць сядзець ля тэлевізара.

Цікавая, на мой погляд, форма сувязі тэатра з гледачом нарадзілася ў нас у Мінску вясною 1968 года па ініцыятыве гарадскога студэнцкага клуба «Мара» пры Мінскім гаркоме камсамола і камсамольскай арганізацыі Рускага драмтэатра імя Горкага. Гаворка ідзе пра «СТВ»—студэнцкую тэатральную вясну. Прагляд спектакляў удзельнікамі СТВ заканчваўся дыспутамі. І калі ў 1968 годзе ў СТВ прынялі ўдзел студэнты політэхнічнага, радыётэхнічнага інстытутаў, БДУ і артысты Рускага драматычнага тэатра імя Горкага, дык у СТВ-69 удзельнічалі ўжо ўсе тэатры Мінска, усе ВНУ і тэхнікумы.

Пачын добры! Яго б падхапіць і абласным тэатрам рэспублікі.

Студэнты, як вядома, народ больш падрыхтаваны да ўспрыняцця мастацтва. А хто ж зоймецца выхаваннем эстэтычнага густу рабочай моладзі, скажам, таго ж абутковага аб'яднання «Прамень», значная частка работнікаў якога, так і не прыняўшы спектакль «Што той салдат, што гэты», пасля антракту пакінула тэатр...

— Калі я вас правільна зразумеў, — нарэшце бярэ ініцыятыву ў рукі мой апанент, — тэлевізійныя перада-

чы аб тэатральным мастацтве і дыскусіі павінны зрабіць пераварот у душах гледача, у яго адносінах да тэатра. Мусіць пасля гэтага ён не толькі будзе хадзіць на спектаклі, а нават выступаць з кваліфікаванымі рэцэнзіямі ў друку?

Зусім не. Калі гледачы пажадаюць выступаць з рэцэнзіямі, то тэатральным крытыкам і тэатразнаўцам, відавочна, прыйдзецца хадзіць на пераклічку, каб дачакацца сваёй чаргі і надрукавацца. На жаль, праблемам тэатра наш перыядычны друк, асабліва маладзёжныя газеты, удзяляюць менш увагі, чым было б пажадана. Звернемся да статыстыкі.

Як, напрыклад, рэагавалі мінскія газеты на нараджэнне новых спектакляў у драматычных тэатрах сталіцы ў мінулым сезоне?

За сезон 1968—69 года тэатр імя Я. Купалы выпусціў чатыры прэм'еры, Рускі тэатр імя М. Горкага — сем, тэатр юнага гледача — пяць. Усяго — шаснаццаць прэм'ер. Прэм'ерам Тэатра імя Я. Купалы сталічныя газеты прысвяцілі шэсць рэцэнзій, Рускага тэатра імя М. Горкага — пяць, Тэатра юнага гледача — чатыры. Пятнаццаць рэцэнзій.

А з сямі газет, у якіх былі змешчаны гэтыя рэцэнзіі — «Звязда», «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва», «Знамя юности», «Чырвоная змена», «Вячэрні Мінск», «Мінская праўда» — глядач выпісвае не больш адной — дзвюх. Калі размеркаваць пятнаццаць рэцэнзій на сем газет, дык акажацца, што кожная з іх у сярэднім асвятляе толькі дзве прэм'еры (з шаснаццаці). Практычна ж яшчэ менш, бо большая частка рэцэнзій публікуецца на старонках «Літаратуры і мастацтва», якая мае больш спецыфічнае кола чытачоў.

Вось і атрымліваецца, што ў поле зроку радавога чытача-гледача пры ўмове, што ён рэгулярна праглядае газеты, трапляе самае большае тры-чатыры рэцэнзіі ў год.

— Але ж вы самі гаварылі, што спектаклі нязначныя, неэтапныя, дык што пра іх пісаць... — зноў чую я іранічны голас апанента,

Гэта праўда. Не надта часта песцяць гледача нашы тэатры цікавымі спектаклямі. Але хіба Кішынёўскі рускі драматычны тэатр імя Чэхава, які гастраліраваў у чэрвені 1968 г., прывёз да нас толькі этапныя спектаклі? А ім жа было прысвечана чатырнаццаць рэцэнзій... Ці Ленінградскі акадэмічны тэатр камедыі, які ў мінулае лета за месяц гастроляў сабраў 17 рэцэнзій, г. зн. больш, чым тры мінскія тэатры за сезон?..

Не, не, я зусім не супраць таго, каб старэйшаму тэатру краіны аддавалі так шмат увагі. Я толькі за тое, што, напэўна, і прэм'еры беларускіх тэатральных калектываў маглі б асвятляцца ў друку часцей і лепш.

Больш таго, нашы газеты маюць магчымасць выявіць розныя пункты гледжання, розныя думкі аб спектаклях, каб тым самым памагчы чытачу свядома выпрацаваць сваё, самастойнае стаўленне. Мне здаецца, у гэтым сэнсе цікавая размова разгарнулася на старонках «Літаратуры і мастацтва» аб спектаклях «Марыя Сцюарт» у тэатры імя Я. Коласа і «Пасажыр без багажу» ў Рускім тэатры.

І перш чым завяршыць артыкул, я зноў даю слова свайму апаненту:

— ...(У даным выпадку шмат'кроп'е азначае паблажліва-іранічную ўсмешку майго субяседніка). Хіба ж могуць тэатральныя рэцэнзіі, няхай самыя дасканалыя або дыскусіі, няхай самыя масавыя, абудзіць у чалавеку, які рэдка наведвае тэатр, цікавасць да яго? Асабліва, калі гэтаму чалавеку ўжо за сорак. Гэта ўсё роўна, што даць дзецям лімонныя цукеркі ці рознакаляровыя карцінкі, замест таго, каб адказваць на іх бясконцыя «чаму». Рэцэнзіі ён проста прапусціць, як нешта неістотнае, а на дыскусіі яго нічым не зацягнеш...

Сапраўды, напэўна цяжка абудзіць любоў да тэатра ў закаранелага ненавісніка тэатральнага мастацтва. У яго ўжо склаліся эстэтычныя прынцыпы, ад якіх ён не збіраецца адступаць. Магчыма, з гэтай задачай справіцца сацыялогія. На яе зараз ускладаюць вялікія надзеі. Але тая ж самая сацыялогія сцвярджае, што больш паловы людзей, якія запаўняюць глядзельныя залы — моладзь. Гляньце паўважлівей ёй у вочы—колькі ў іх жадання цікава і змястоўна праводзіць свой вольны час. Дык дапамажыце ёй—я да вас звяртаюся, дзеячы тэатра і работнікі перыядычнага друку...

Наша гутарка з «крытыкам са стажам» закончана. Сумна, але прыйдзецца развітацца. Застаецца толькі назваць яго імя, як я і абяцала. Але што гэта? Здаецца, ён не хоча. Ён абяцае выступіць сам наступны раз і паспрачацца са мной.

Што ж. Я буду чакаць!

# ПЕРАКЛАД— ГЭТА НЕ НА ПЛЯЧО З ПЛЯЧА

Язэп СЕМЯЖОН



**У канцы мая гэтага года Саюз пісьменнікаў СССР склікае ў Маскве 3-ю Усесаюзную нараду перакладчыкаў. Апошні раз такая сустрэча савецкіх літаратараў, што працуюць у галіне мастацкага перакладу, адбывалася на пачатку пяцідзесятых гадоў.**

**Нарада з'явіцца, як мы чакаем, шырока прадстаўнічым форумам усіх пісьменніцкіх арганізацый, на якім будуць абмяркоўвацца і вырашацца надзённыя і вельмі важныя для ўсёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры творчыя і арганізацыйныя пытанні. Нарада будзе праходзіць у знамянальны год слаўнага ленінскага юбілею, і, зразумела што адным з першых дакладаў па ёй будзе даклад аб ленінскіх прынцыпах перакладу. Як вядома, У. І. Ленін сам быў бліскучым бязлітасна патрабавальным да сябе перакладчыкам марксісцкай літаратуры і высокаадукаваным рэдактарам. Асваенне ленінскай спадчыны ў гэтай галіне—святы абавязак вялікай арміі савецкіх літаратараў і перакладчыкаў.**

**Побач з іншымі дакладамі аб развіцці і дасягненнях савецкай школы мастацкага перакладу асаблівае месца ў рабоце нарады павінна будзе заняць дыскусія па такіх пытаннях, як стан перакладчыцкай справы ў саюзных рэспубліках, інтэрнацыянальныя ўзаемасувязі і ўзаемадзеянні савецкіх нацыянальных літаратур адна з адной і з прагрэсіўнымі літаратурамі свету.**

**Сакратарыят Саюза пісьменнікаў СССР, прымаючы пастанову аб скліканні такой сустрэчы перакладчыкаў, рэкамендаваў пісьменніцкім арганізацыям усіх рэспублік разгарнуць на месцах дзейсную падрыхтоўку да яе як у творчых саюзах, так і ў друку.**

**Дасягненні беларускага мастацкага перакладу значныя і бясспрэчныя, аднак ёсць яшчэ і шмат нявырашаных надзённых праблем і пытанняў, па якіх неабходна шчырая размова перад нарадай.**

**Артыкулам паэта-перакладчыка, старшыні секцыі мастацкага перакладу пры СП Беларусі Язэпа Семяжона штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» адкрывае творчую трыбуну перад 3-й Усесаюзнай нарадай перакладчыкаў. Мы спадзяёмся, што не толькі пісьменнікі-практыкі, якія плённа выступаюць у гэтым пачэсным і адказным жанры, але і шырокае кола нашых чытачоў выкажацца па надзённых пытаннях перакладчыцкай справы, паказаўшы тым самым, што і яны не абыякавыя да клопатаў і турбот «пятай музы» сваёй літаратуры — мастацкага перакладу.**

СУЧАСНЫ беларускі мастацкі пераклад стаў з'явай нашай літаратуры. Гэта — бясспрэчны факт. Лепшыя яго ўзоры, што належаць буйнейшым майстрам роднага слова — народным паэтам і пісьменнікам рэспублікі П. Броўку, А. Куляшову, К. Крапіве, М. Танку, а таксама пісьменнікам старэйшага і сярэдняга пакалення — М. Лужаніну, А. Вялюгіну, Ю. Гаўруку, Ул. Дубоўку, К. Кірэенку, Я. Брылю, Н. Гілевічу, А. Зарыцкаму, Р. Барадуліну і іншым — не толькі пашыраюць геаграфію мастацкай літаратуры, але і ўзбагачаюць яе выяўленчыя сродкі. Разнамоўныя кнігі, таленавіта і ўмела перакладзеныя нашымі пісьменнікамі на сваю родную мову, не страцілі ў сваіх мастацкіх вартасцях таго багацця ідэйнага зместу і дасканаласці формы, палітры і чысціні мовы, якія былі ўласцівы арыгіналу.

Майстэрства перакладу, як від творчай дзейнасці — занятак не лёгкі і не кожнаму па плячы. Хоць наш тэрмін «пераклад» паходзіць ад дзеяслова «перакладаць», але гэта — не з пляча на плячо. Праца ў вышэйшай ступені творчая, ён, мастацкі пераклад, па сваёй прыродзе павінен быць прыдатны для асобы творча адоранай, самой прыродай надзеленай талентам і тым неацэнным матчыным дарам, без якога наогул немагчыма кінуць зерне на ніве роднай літаратуры — дасканалым валоданнем роднай літаратурнай мовай.

Факты гісторыі любой літаратуры —яскравае таму сведчанне. І нашай — таксама. Ад «лучыннага агеньчыка праўды», якім яшчэ на зары позняга Адраджэння заявілі аб сабе свайму «люду паспалітаму» і цэламу свету Францішак Скарына — наш першы асветнік і мысліцель, паэт і перакладчык, а амаль разам з ім і вялікі паэт нашых продкаў Мікола Гусоўскі, да трыбуннага голасу Янкі Купалы і Якуба Коласа, што імкнуліся гутарку весці не толькі з «цэлым народам», але і з цэлым светам і не інакш, як праз мастацкі пераклад — вось які доўгі і біты шлях беларускага мастацкага перакладу. На гэтым шляху пакінулі свой глыбокі след М. Багдановіч і З. Бядуля, К. Чорны і М. Зарэцкі, А. Дудар і Ю. Таўбін — многія з тых дзеячоў нашай літаратуры, якіх даўно ўжо няма сярод нас.

Аднак, як кажа наша народная мудрасць, жывыя павінны думаць пра жывое. І гэты рэтраспектыўны позірк у гісторыю нам здаецца неабходным толькі для таго, каб, адчуўшы трывалы грунт пад нагамі і глыбока ўсвядоміўшы, што мы не «без роду і племя», не столькі падсумоўваць вынікі гаспадарчага года, колькі пагаспадарску прыкінуць і спланаваць нарад на заўтра.

Сучасны стан нашай літаратурнай мовы, яе лексічнае багацце і дасканалая сінтаксічная распрацаванасць дае пісьменніку і перакладчыку амаль неабмежаваныя магчымасці для выказвання на ёй самых танчэйшых адценняў іншамоўнага арыгінала. Герцэн пранікліва ўгадваў толькі яе патэнцыял. Нам жа, сучаснікам сённяшняга росквіту сваёй нацыянальнай культуры, ва ўмовах савецкай рэчаіснасці аддае яна ўсё сваё шмат разоў памножанае багацце. Бяры — і карыстайся на вечныя часы. А як мы ім карыстаемся?

Адной з самых «модных» і небяспечных хвароб нашага мастацкага перакладу досыць часта якраз і з'яўляецца моўная «бледная немач». Адкуль і якім паветрам заносіцца да нас гэтая хвароба? Не высыхае ж і не мяльчэе спрадвечная крыніца ў сваіх глыбінях. Народ гаварыў і гаворыць на багатай, выразнай і адшліфаванай ва ўсіх гранях і адценнях мове. Ён, стваральнік і тонкі знаўца мовы, слова ў поблыт не скажа. Давайце прыслухаемся да дзядзькі брыгадзіра ці будаўніка ў нашых новых калгасных вёсках і ў рабочых пасёлках. Ён дзесяць раз прымерыць — якая дзе сітуацыя і якое вобразнае хрышчэнне ёй даць. І дае. А мы, літаратары, выразнікі дум і спадзяванняў сваіх сучаснікаў, часам застаёмся няўважлівымі да самай дакладнай з дакладных гуманітарных навук — словатворчасці, і бяром са скарбонкі роднай мовы толькі верхнія, найбольш хадавыя і сцёртыя пятакі.

Назіранні і некаторы вопыт шматгадовай працы і ўдзелу ў прыёмных іспытах у старэйшай вну рэспублікі — Белдзяржуніверсітэце імя У. І. Леніна — глыбока мяне пераконваюць у тым, што за апошнія два дзесяцігоддзі сярэднія школы рэспублікі, асабліва ў гарадах і гарадскіх пасёлках, даюць такі кантынгент абітурыентаў для філалагічнага і журналісцкага факультэтаў, які ў пераважнай сваёй большасці ведае вельмі слаба беларускую мову. Пры тых тэмпах урбанізацыі насельніцтва, якія назіраюцца ў рэспубліцы за апошнія дзесяць —пятнаццаць гадоў, не цяжка прадбачыць, да чаго можа прывесці існуючая ў нас сістэма выкладання роднай мовы і літаратуры ў сярэдніх школах. Дрэва вырастае з кораня — даўняя народная мудрасць. А корань, скажам шчыра, — часам падразаецца «дзякуючы» недасканалай, распрацаванай адвольна ў свой час праграмай і сеткай вучэбных гадзін на выкладанне роднай мовы і літаратуры ў пачатковай і сярэдняй школах рэспублікі.

Добрай традыцыяй беларускага мастацкага перакладу як у дакастрычніцкі перыяд, так і ў савецкі час быў агульнапрыняты прыклад: перакладаць непасрэдна з арыгінала. Лепшыя творы як з роднасных славянскіх моў, так і з літаратур іншаземных, праз рускую мову—мову-пасрэднік — у нас амаль не перакладалі. У творчай дзейнасці беларускіх перакладчыкаў у першыя два дзесяцігоддзі савецкага часу так званай праблемы перакладу з падрадкоўніка, здаецца, ніколі не ўзнікала.

Але ўжо на пачатку трыццатых гадоў, у выніку культурнай рэвалюцыі, беларуская перакладная кніга патокам рушыла да чытача мільёнамі экземпляраў, знаёмячы яго з узорамі прыгожага пісьменства не толькі класічнай і сучаснай літаратурай рускага народа, але і ўсіх братніх народаў нашай краіны і прагрэсіўнай літаратурай свету. Тады і паявіўся, як эрзац арыгінала, нямоглы падрадкоўнік. І кадры рэдактараў у нашых кніжных выдавецтвах і рэдакцыях літаратурных выданняў аказаліся не на адпаведнай вышыні. У выніку шэраг выдатных твораў зарубежнай класікі і савецкіх нацыянальных літаратур траплялі да чытача ў недасканалых, рамесніцкіх перакладах.

На жаль, і цяпер такое становішча мала ў чым перамянілася к лепшаму. Ні перакладчыкаў, ні рэдактараў, што валодаюць мовамі многіх народаў СССР і зарубежных краін, з літаратур якіх робяцца, выдаюцца пераклады ў нас, у Мінску, як не хапала, так і не хапае.

Дзе ж выйсце і з гэтага «вузкага месца»? А ці не пераняць нам добры вопыт другіх рэспублік — хоць бы нашых суседзяў-літоўцаў, латышоў, эстонцаў? Доўгі час у Эстоніі таксама не хапала перакладчыкаў з моў многіх народаў Савецкага Саюза, лепшыя мастацкія творы з іх літаратур перакладаліся праз пасрэдніка — рускую мову. Але выйсце было знойдзена. Па дамоўленасці рэктаратаў рэспубліканскіх вну з універсітэтамі другіх рэспублік нашай краіны быў наладжаны абмен студэнтамі — пачынаючымі пісьменнікамі і філолагамі, якія праяўлялі здольнасці да літаратурнай працы, у тым ліку і да мастацкага перакладу. І вось ужо на працягу некалькіх гадоў такіх юнакоў-філолагаў, што скончылі альбо займаліся на старэйшых курсах Тартускага дзяржаўнага універсітэта, пасылаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы іншых рэспублік — Грузіі, Азербайджана, Арменіі, Казахстана і іншых, — і гэта дае плённыя вынікі. У межах адной краіны такі метад падрыхтоўкі кадраў для нацыянальнай літаратуры нам здаецца найбольш рацыянальным і ўсебакова апраўданым.

Змагла ж Беларусь накіраваць цэлую групу (больш 10 студэнтаў) на чатыры гады вучыцца ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскву, каб папоўніць рады перакладчыкаў з беларускай і польскай мовы на мову рускую. А чаму таго ж самага мы да гэтага часу не можам — ці не дагадваемся! — зрабіць для роднай літаратуры?

Наша сталіца, цудоўны новы Мінск, па праву лічыцца другім цэнтрам краіны (пасля Масквы) па масавай падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў па замежных мовах. На шматлікіх факультэтах Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў дзеці Беларусі вось ужо блізка дваццаць год —выпуск за выпускам — авалодваюць дванаццаццю замежнымі мовамі, каб стаць пасля сканчэння інстытута выкладчыкамі, навуковымі работнікамі і перакладчыкамі - гідамі. Але ні ў гэтым інстытуце, ні ў двух універсітэтах рэспублікі, ні ў адным з шасці педагагічных інстытутаў рэспублікі ў вучэбных праграмах не значыцца і не выкладаецца хаця б курсоўна такая навука, як асновы тэорыі мастацкага перакладу.

Абыякавае стаўленне да перакладу як адной з галін філалагічнай навукі з боку гуманітарных вну рэспублікі мае сваім непазбежным вынікам і застой у навуковай распрацоўцы тэарэтычных праблем перакладу. Мастацкі пераклад не заняў у вну рэспублікі належачага яму месца даследчай філалагічнай дысцыпліны, нягледзячы на тое, што асноўная маса беларускіх літаратуразнаўцаў і крытыкаў працуе іменна ва ўніверсітэце і інстытутах, у сектары міжнародных сувязей Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР. Пакуль што ў рэспубліцы няма вучоных, якія б спецыялізаваліся ў гэтай галіне.

Баюся, што агульным месцам у пераліку недахопаў будзе яшчэ адзін папрок у адрас нашай крытыкі, калі скажу, што ў нашым перыядычным друку нават вельмі добрыя перакладныя кнігі, што выходзяць у рэспубліцы, не рэцэнзуюцца.

З такімі думкамі ідзём мы, беларускія перакладчыкі, насустрач маючай адбыцца 3-й Усесаюзнай нарадзе перакладу.

цевы пальцы. Нарэшце, я заўважаю гаспадара, але словам перабіваць танец не хочацца, бо даўно не чуў яго, такі просты, не пахіснуты ў Неглюбцы ні «фокамі» і «рокамі», ні «Енькамі» і «Ладамі». Праўда, канец усяму прыходзіць. Гэтай радасці — таксама. Пеця сцінае мяхі, хавае паміж іх чырвоны кветнік, ставіць гармонь на стол і молада ўсміхаецца Ягору Іванавічу:

— Душу адвёў...

— Мне на вёсцы сказалі, што вы глядзіце па хатах нашы мастацтвы. Няўжо, думаю, да мае кабеты не завернуць?—разважае гаспадар.

— Завярнулі.

— А яе нямашака. Яшчэ ў школе. Там на кухні робіць. К вечару прыйдзе. Глядзіце. Што кругом наткана — усё яе рукамі.

— Ужо ж...

— З Мінска як прыязджалі выбраць для выстаўкі работы нашых масцярыц, дык таксама стаялі вось гэтак сярод хаты, дзівіліся. Потым прыслалі спецыяльна да маёй кабеты мастачку. З фарбамі, пэндзлямі. Яна маю кабету з усіх бакоў малявала. Вось і гэты партрэт, на сцяне, работа тае мастачкі. Ва ўсёй красе бабу маю выпісала. Са строчкамі...

Размова зноў віецца вакол неглюбскіх майстрых, быццам далей і далей бяжыць ігрывы шаўковы шнурочак, пачаты шчэ ў Моцечкінай хаце. Узяў бы Ягор Іванавіч, ды і расказаў пра сваё мастацтва, пра свае гармоні, як шліфуе ім галасы, даводзіць да тонкіх рассыпістых пераборау. Дык жа не. Усё — пра мастацтва гаспадыні, якая, між іншым, і кросны ўжо сабрала, пачала ткаць («Што? Не кажа. Яны ўсе так: што выйдзе. А сатчэ, тады ўсёй вёсцы пакажа...»), толькі пачала набіраць аснову («...з работы прыйдзе, тады адкрые вам планы свае. Падбяжыце вечарком. У яе такая карта з планамі, што ў маршала»). Зрэдку, праўда, размова са́б'ецца і на гармоні, бо як жа іначай: мастацтва гаспадыні жыве разам з мастацтвам гаспадара («...як бралі яе работы ў Мінск на выстаўку, дык і маю гармонь узялі») не дзесьці, а тут, у гэтым вытканым кветніку, адтачваюцца, падганяюцца на любімы лад галасы адной гармоні, затым другой, трэцяй. Пра кожную гармонь Ягор Іванавіч гаворыць так, як бацька — пра дзяцей. Яго можна зразумець: не адзін месяц выношваецца ім кожнае такое дзіцё, не адзін месяц праразаецца яго дыханне, голас. І пра страты ў любімай справе Кавалёў расказвае як пра страту нечага жывога.

— Адзін толькі гармонны строй мне сустрэўся, якога я не перазняў,— з сумам прызнаецца ён.—Гармонь тая была з Бранска. На рамонт мне яе прывозілі. Перазняў бы, ды ўсё падганялі, каб хутчэй рабіў. Пакуль басавую палавіну рамантаваў, так і не змог зазірнуць у галасавую. А шкада. Строй быў малінавы...

Подвечар мы зноў пастукаліся да Кавалёвых. Пры кроснах на покуце сядзела ўжо сама гаспадыня. Парыпвалі пад ставамі панажы, навой няўлоўна для вока адматваў чорныя ніці асновы, паляскваліі набілкі, прыцінаючы ўток, адзін перад адным скакалі ніты і чаўнок, быццам караблік, плаваў злева ўправа і справа ўлева, ганяючы на сабе шпульку з сінімі, што васількі па жыце, ніцямі. Можа васількі па жыце і ткаліся...

— Ці паказвала ж вам Моцечка свой залаты медаль? Ну, не дужа залаты, пад золата...—смяецца Ефрасіння Якаўлеўна.

— Яны ў Маскве на выстаўцы і вышэйшыя дыпломы забралі, і медалі,—ганарыцца за жонку муж.

— Не адны мы з Моцечкай. І Ганна Суглоб. І Маруся Харцянок...

— Ты ж хоць пакажы людзям. За посцілкі па восемдзесят рублёў прыслалі. Павезлі некуды далей паказваць.

— А што можа быць далей, як Масква?—задумваецца гаспадыня.

— Ці ты газет не чытаеш? У Японію. На сусветную выстаўку.

Ефрасіння Якаўлеўна падымаецца з-за кроснаў, дастае з шафы стосы свайго рукадзелля.

— Вось гэтую посцілку ткала ў чатыры ніты... Гэтую—у восем... Абрус с шашачкамі—у дванаццаць... А тут я рэкорд паставіла—у дваццаць пяць нітоў. Бачыце, колькі розных карунанчкаў, пераліўчыкаў... Сама выдумала...

Пастукваюць набілкі—Ефрасіння Якаўлеўна тчэ. Гаспадар прыносіць у хату бярэмак сухіх дроў, скідае іх з рук ля грубкі, просіць Пецю сыграць яшчэ раз «Нарэчаньку», ды нам трэба ісці да Марыі Прыходзькі, Ганны Суглоб... І мы развітваемся, адклаўшы «Нарэчаньку» да наступнай сустрэчы.

— Да гэтых жанчын схадзіце,—пагаджаецца з намі гаспадыня.—Куфры ў іх ад ткання лопаюць.

— Днямі з Чачэрска наведалася нейкая начальніца,—падкідаючы ў грубку палена за паленам, кажа Ягор Іванавіч.—Казала бабам, каб у Неглюбцы ткацкі цэх адкрыць.

— А чаму б не? Колькі нашых баб без работы зімой. Ткалі б. Няхай толькі ніці прывязуць, бёрды...

— Гэта ж ад фабрыкі. Па-фабрычнаму і трэба.

— А то мы з фабрыкай не пацягаемся?..

Па адлізе бярэцца мароз. Вуліцу падсушыла. Храбусціць пад нагамі скаваная дарога. Званчэе паветра. Недзе грае гармонік. Заліваецца далекавата, мо на другім канцы вёскі.

— А то нават не ў вёсцы, а ў пасёлку. За тры кіламетры,—разважае Пеця.—Нашы гармоні і адтуль чуваць, калі ветру няма. Па цішыні мелодыя шліфуецца...

Мы спускаемся з горкі. Вёска пазапальвала агні ў хатах і ў гэтым густым рассыпістым святле здавалася вялікай, што горад. Па электрычным россыпе агнёў мы кіравалі да хаты Марыі Аляксандраўны Прыходзькі...

●

«Фантамас» прыйшоў і ў Неглюбку. Зараз ён дэманструецца на шырокім экране саўгаснага клуба і сюды, у гасцініцу, да мяне раз за разам накатваюцца хваля за хваляй рогату. Гэтыя хвалі, разгайданыя «Фантамасам», падымаюцца да дзевятага вала... І я не сплю. Я чакаю, калі апошні вал, апошняя хваля выкінуць на мой бераг Рыгора Андрыяўца. Следам за мной, ён, малады супрацоўнік Веткаўскай раённай газеты, прыехаў у саўгас «Дружба», і яшчэ мы не бачыліся.

З ложка ў акне відаць асветленае поўным месяцам сіняе неба і па ім—грады падсіненых воблакаў Яны плывуць густа, сіняга акіяну ў разводах мала і здаецца, што ўсё там, наверсе, плыве, акрамя месяца—нябеснага рэгуліроўшчыка.

А за глухой сцяной гудуць правады. Хто з нас не чуў іх песні на зімовых дарогах?..

Пад адным дахам з гасцявым пакоем, за сцяной,—саўгасная АТС. Напэўна там, сабраныя ў апаратуры, правады і гудуць хорам. Можа нават не так ад марозу за вокнамі, як пад наплывам начных тэлефонных размоў...

У вушах усё яшчэ гучыць голас Марыі Аляксандраўны Прыходзькі—разважлівы, летуценны. Быццам з гэтых пявучых правадоў здымаю яе роздум: «Наткала горы. Каб усё сабраць разам ды паслаць дзе за вёскай. Кветкам канца краю, здаецца, не было б. Ад матэрыі ж і аслепла. Бывала, сядзеш ля акна, шыеш або тчэш, сонца на ніці кладзецца, ад іх—у вочы. Тчэш кветкі і тут жа слепнеш ад іх красы...»

Словы—як знятая з тых правадоў тэлефанаграма. Да людзей, якія гадуючы новыя кветнікі, не павінны забываць і тыя, што ад веку ўсыпалі вёску, давалі ёй радасць і мару, а цяпер плылі ажно за мора, у Японію, каб паказаць мастацтва неглюбскіх «мадзістак» усяму свету, паказаць прыгажосць, ад якой не хітра і аслепнуць, і якой, нават слепнучы, ніколі нельга здрадзіць.

Рыпяць дзверы...

Рыгор?..

Ён стаіць на парозе. Што здань. У белым квадраце белай ночы. У вялікай заечай шапцы. Рагоча:

— Мароз бярэцца. Каб яшчэ і снег...

У гэтых словах аб марозе і снезе, у белай заечай шапцы Рыгора мне бачыцца заўтрашняя дарога па Неглюбцы і суседніх з ёю паселішчах—працяг сённяшняй дарогі ў пошуках адвечнай песні...

# Паэтычная ПАВЕРКА

**Жэня ЯНІШЧЫЦ**





●

Боль перасіліў немату
І яркіх фарбаў
                мне не шкода,
Бо і сама я, як прырода,
то ападаю,
        то цвіту.
Яшчэ зямлі мяне вучыць
Любві,
    што будзіць нас штодзённа.
І верш
    цячэ
        па
            целе
                сонным
І новай музыкай гучыць!
Святлом і цішаю сагрэта,
Перабіраю валасы.
Ва мне вясны,
        зімы
            і лета
І лістападаў галасы
Гудуць,
    звіняць наперабой
І нараджаюцца нанова.
...Я прачынаюся вяснова,
Нібы загон перад сяўбой.

●

Я дзяліць не перастану
З цішынёю сум і боль.
Падзялю з сяброўкай тайну,
З падарожнікам — хлеб-соль.

Падзялю бяду з суседам,
З рэчкай — росы чыстых слёз.
Навіну — з пытлівым дзедам,
З вёскай — буйны сенакос.

Падзялю з матуляй ласку,
З лютым ворагам — абрыў,
З дзецьмі — музыку і казку,
З навальніцаю — разрыў.

Я дзяліцца не пакіну.
Ды адно, відаць, не скрыць —
Дайце тую палавіну,
Што не ў сілах падзяліць!

●

— Пра балота напомніць
                прасіла?..—
Голас дзеда цячэ ў цемнаце.
Маладую даўно пакасілі
А старая...
        няхай пацвіце!
Не спяшаюцца дужа з атавай...
Добры сёлета быў сенакос...

Крочым лугам. Высокія травы
Пад цяжарам нахлынуўшых рос.

Злева — рэчка. І домік направа
Пакідаем. Глядзіцца з вакна
Цётка Клава,
        Клава-атава,
На чатыры пакоі адна.

Можа, успомніць пра нашу
                размову,
Па гадах, як па снах, прабяжыць.
І прывычна пагоніць карову
На атаву, што буйна шуміць.

Мне ж успомніцца досвіткам
                сінім
Голас дзеда глухі ў цемнаце:
«Маладую даўно пакасілі.
А старая...
        няхай пацвіце...»

●

Прыедзь у край мой ціхі
Праз доўгія гады.
Тут белыя бусліхі
І мудрыя дзяды.

Хапае на Палессі
І сонца, і вады.
І што ні хата — песня,
І што ні двор — сады.

Па травах ў росах шызых
Мы пойдзем да ракі,
Дзе мыючы бялізну,
Вядуць сваё жанкі.

І будзе песня спета
Пра шчасце, пра бяду.
І будзе падаць лета
У празрыстую ваду.

## ПАСЛЯ НАВЕДАННЯ БАЯНСКАГА САБОРА

Табе ў вяках наканавана
Узвысіць слаўную зямлю.
Люблю багоў тваіх, Баяна,
І грэшнікаў тваіх люблю.
З барадамі і без барод,
Жанатыя і халастыя
На гулкіх вуліцах Сафіі
Яны жывуць каторы год!
Нібы вясноваму світанню,
Гасцям далёкім кожны рад.
І я ў адказ на запытанне
Кажу балгарам «хубаў град».
Букетам з руж і васількоў
Яснеюць
        словы
            блізкіх моў.
Сафія летняя ў гуморы,
Увіты лозамі парог.
І галава яе сабора
Над лабірынтамі дарог.
Багі не хочуць знаць тугі —
Багі завуць на пірагі.
І сёння ў начной Сафіі
Яны з гасцямі заадно
Запаляць свечкі несвятыя
І п'юць даўняе віно.

*Сафія, верасень 1969 г.*





Мал. В. ТАРАСАВА.



*СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭТЫЧНАЙ ЛЕНІНІЯНЫ*

# ЛЕНІНСКІ ПОСТУП У ШЧАСЦЕ

М. ЯРОШ

ГЕРАІЧНАЯ гісторыя нашай партыі, магутная хада Кастрычніка, станаўленне сацыялістычнай явы ўзнаўляюцца савецкімі пісьменнікамі, калі яны імкнуцца расказаць пра Леніна. У паэтычных жанрах, з-за іх спецыфікі, шырэй выяўляецца эмацыянальна-настраёвы свет падзей, аб'ектыўны іх змест можа набываць сапраўдны эпічны размах і драматычнае напружанне. Цесная сувязь лірыкі, драмы і эпасу ажывае ў нашай паэзіі перш за ўсё тады, калі ўздымаецца грандыёзная тэма Кастрычніка, калі ставіцца такая кардынальная праблема, як праблема ўзаемаадносін асобы і масы.

Класічны прыклад — паэма У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін». Тут агульначалавечае, агульнанароднае і асабістае, прыватнае выступаюць у адзіным маналітным сплаве. Лёс адной чалавечай асобы перарастае ў гісторыю краіны і народа, а таму вобраз Леніна становіцца надзвычай шматгранным, манументальным.

У беларускай паэзіі рабіліся спробы з такім вось, як у Маякоўскага, строгім гістарызмам і лірычнай праніклёнасцю, не гаворачы ўжо аб філасофскай глыбіні і драматычным накале, вырашаць ленінскую тэму. Гэтыя спробы рабіліся, пачынаючы з 1924 года, калі па ўзрушанасці сэрца, па закліку «Маладняка» паэты звярнуліся да вобраза правадыра. З таго часу ленінская тэма актыўна жыве ў нашай літаратуры.

З беларускіх паэтаў часцей за іншых адпраўляўся ў мастацкія пошукі Пятро Глебка. Яго творчы вопыт шмат у чым павучальны.

Сёння ўжо ніяк нельга застацца абыякавым да рытарычнасці асобных мясцін паэмы «Мужнасць» (1934), да ілюстрацыйнасці ў паказе гісторыі ў некаторых раздзелах паэмы «У тыя дні» (1937), да неглыбокай псіхалагічнай «запоўненасці» дыялогаў і маналогаў у драматычнай паэме «Святло з Усходу» (1957). Але і пры такіх сур'ёзных выдатках паэмы П. Глебкі не могуць не прыцягнуць увагі сваім пафасам сцвярджэння ленінскай праўды, мастацкімі знаходкамі ва ўвасабленні вобраза Ільіча, у паказе адносін працоўных людзей да правадыра.

У 1926 годзе П. Глебка, тады яшчэ зусім малады паэт, напісаў верш «Памяці У. І. Леніна». Верш, за выключэннем уступу і апошняй страфы, напісаны ў апавядальнай манеры—дзядуля расказвае ўнукам пра свой нялёгкі лёс. Кастрычнік, Ленін перайначылі жыццё дзядулі, і ён не можа не сказаць пра гэта дзецям, не можа не ўспомніць:

**Я помню, ён, вялікі Ленін,**
**Прыжмурыў вока, як трыбун,**
**І так сказаў: «У наступленне,**
**Пакуль не дойдзем да камун».**

Верш «Песні жалобы» (1928) уяўляе сабой маналог лірычнага героя. Апавядальны элемент саступае тут месца лірычнай споведзі. Успаміны незабыўнай страты навяваюць паэту горкія думы, журбу. Словы самі просяцца на вусны—словы простыя, але поўныя неўтаймаванай скрухі, эмацыянальнай узрушанасці:

**У снежных карунках застылі драты,**
**Слупы пры дарозе застылі.**
**Слязьмі асыпаецца іней.**
**І раптам трывожна гудуць правады,**
**Бяроза над хатай схіснула галлё,**
**Заплакала ў снезе каліна.**
**Прамчалася вестка наўсцяж над зямлёй:**
**— Вялікая страта ў краіне.**

Але матыў трагізму не заглушае пафасу жыццесцвярджэння. Роспач пераадольваецца мужнасцю сэрца, глыбокім усведамленнем таго, што справа Леніна жыве, што пад сцягам Леніна ідуць да шчасця і здабываюць яго мільённыя масы.

Ёсць у вершы «Песні жалобы» радкі:

**Усё, што настане, і ўсё, што было,**
**Агорнута ленінскай думай...**

Гэтыя словы нібы прадвызначалі далейшы кірунак працы П. Глебкі над ленінскай тэмай. Гэта—своеасаблівы эпіграф да ўжо згаданых паэм.

Дзелячыся ў аўтабіяграфіі сваімі творчымі задумамі, Пятро Глебка гаварыў аб сваім жаданні завяршыць дзве трылогіі—лірыка-эпічную — аб перамозе сацыялізма ў СССР («У тыя дні», «Мужнасць») і драматычную — аб усталяванні Савецкай улады ў Беларусі («Святло з Усходу» і «Над Бярозай-ракой»). Гэтым задумам не суджана было здзейсніцца—паэт памёр. Але ўсё ж вобраз Леніна знайшоў пэўнае выяўленне ў яго паэмах.

Больш за ўсё, аднак, Пятру Глебку ўдалося паказаць у паэмах, як ленінская праўда авалодвае сэрцамі і розумам людзей і тым самым становіцца матэрыяльнай сілай, здольнай рухаць уперад масы. І зусім правамерна метафара, ужытая паэтам пры апісанні сустрэчы правадыра на Фінляндскім вакзале ў паэме «У тыя дні»:

**Не сілаю рук,**
**А пачуццямі сэрца**
**Узнялі яго на круты бранявік.**

Зусім правамерны і вобраз, ужо хрэстаматыйна замацаваны ў паэме «Мужнасць»:

**І сэрца бязмежнай краіны**
**Замоўкла на пяць хвілін.**

У паэме «Мужнасць» увогуле нямала радкоў вобразна яркіх, прачулых, узрушаных. Яны падкупляюць шчырасцю, глыбінёй пачуцця. А гэта і ёсць выяўленне пачуццяў людзей, што развітваюцца з самым дарагім чалавекам.

**А цяпер палямі**
**Цераз гэту ж глуш,**
**Дзе сухія дрэвы**
**Сцежку сцерагуць,**
**Дзе рыдае скруха,**
**Дзе галосіць сум,—**
**Леніцы маўкліва**
**Леніна нясуць.**

**Ані слоў**
**Ні песень,**
**Толькі стогне крок...**
**Ад вялікай крыўды**
**Ледзянее кроў.**

І іншым, публіцыстычна-завостраным, становіцца голас паэта, калі ён гаворыць аб мужнасці народа, той мужнасці, якая прывяла да перамогі Кастрычніка, дапамагла зжыць голад і пераадольваючы самыя суровыя выпрабаванні, ісці да наканаванай правадыром мэты. Гэтую, загартаваную ў працы і барацьбе мужнасць паэт, натуральна, адчуў перш за ўсё ў Леніне. Успомнім хаця б, як перадае ён ленінскую рашучасць, нязломную волю ў час аднаго з пасяджэнняў першага з'езда Саветаў, калі меншавік Цэрэтэлі двудушна крычаў аб нездольнасці ніводнай партыі ў Расіі ўзяць уладу ў свае рукі:

**Над крыклівай помпаю**
**Трагікаў і эпікаў**
**Выбухае бомбаю**
**Ленінская рэпліка:**
**— Ёсць такая партыя!..**
**І крутой лавінаю**
**Цішыня упартая**
**У праходы хлынула.**
**. . . . . . .**
**А ён, вялікі і магутны,**
**І радасны, як светлы дзень,**
**Паходкай лёгкай і нячутнай**
**Ужо ў прэзідыум ідзе.**

Такім нязломным, мужным паўстае Ленін не толькі ў гэтай сцэне. Творчае ўяўленне паэта заўсёды малявала велічны, гераічны вобраз Леніна, калі Пятро Глебка імкнуўся па-мастацку асэнсаваць пройдзены народам шлях, вылучыць у ім найбольш істотнае, што звязана з жыццём і дзейнасцю правадыра, з гістарычным лёсам таго, што ён зрабіў.

Паэт добра ўлавіў гістарычную перспектыву, сцвердзіўшы ў апошніх строфах «Мужнасці», што «мы ніколі не прыстанем—ні ў цяжкай працы, ні ў хадзе», бо «вялікі і магутны Ленін сярод жывых ідзе жывым».



## *БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ:*

### Адольф ВАРАНОВІЧ



**Аднойчы сярод рэдакцыйнай пошты аказаўся ліст з Оршы. Падпісаны ён быў невядомым для нас прозвішчам—Адольф Варановіч. А ў лісце—апавяданне. Твор быў сыраваты, даволі рыхлы па кампазіцыі. Аднак многімі сваімі якасцямі апавяданне маладога аўтара прываблівала. Адчувалася, што А. Варановіч умее па-свойму бачыць і чуць, піша пра тое, што добра ведае. Радавала і тое, што аўтар надзвычай чуйны да роднага слова, да яго сэнсавага і эмацыянальнага напаўнення...**

**Пасля ў рэдакцыю не аднойчы прыходзілі з Оршы лісты з новымі творамі пачынаючага празаіка. І вось сёння мы прапануем чытачам два апавяданні Адольфа Варановіча—«Новая хата» і «Апошні дзень». Гэта — яго першае выступленне ў рэспубліканскім друку.**

**А. Варановічу — 30 гадоў. Нарадзіўся ён на Мядзельшчыне. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы. Потым, вось ужо дзесяць гадоў, працуе ў мастацкай майстэрні Аршанскага ільнокамбіната.**

# НОВАЯ ХАТА

Жоўтымі пажарамі збажыны шугала наўкол блакітнае лета. Ветры прапахлі цветам ліпы, і калі вечарамі на травы ападалі празрыстыя росы, пах мёду разліваўся па ўсёй зямлі. А раніцай сонца сушыла росы, і лістота арэшніку і бяроз рабілася бліскучай і салодкай.

Андрэй міжволі заўважаў мілыя і знаёмыя з дзяцінства драбніцы вясковага жыцця, ад якіх упершыню быў адарваны. І цяпер, прыехаўшы на канікулы, ён асабліва востра, па-новаму ўспрымаў іх.

Летам у вёсцы — гарачая пара. Андрэй зноў невыказна рады быў адчуць цяжар сялянскай працы. Аднавяскоўцы данімалі жартамі:

— Не развучыўся на касу налягаць? Гэта цяжэй, чым на лыжку! І ты, Цімох, таксама харош: адпусціў хлопца ў горад. А ці ж нам падмены не трэба? Гадоў праз колькі яшчэ як запросім!

— Вернецца. Выўчыцца, панімаіш, і вернецца, — апраўдваўся бацька, а сам паглядаў на сына, нібы пытаў: праўду я кажу?

Андрэй адмоўчваўся, але яму было вельмі прыемна, што ён тут не чужы, не госць.

А тут прыслала пісьмо сястра, што выйшла замуж у Заброддзе, і ў пісьме вельмі прасіла бацьку з Андрэем пад'ехаць дзянькі на два ў талаку — ставіць зруб.

— Трэба ехаць, — сказаў бацька, — не часта гэта бывае — новая хата.

Да мястэчка яны даехалі, а там да Заброддзя рукой падаць. Па ранішнім халадку, калі ў паветры яшчэ не плавае пыл, калі лён, прачнуўшыся, адкрывае блакітныя вочы — не хада, а радасць.

Утрамбаваная сцежка вілася між кустоў алешніку, разганялася і крута лезла на пагорак. Андрэй ішоў лёгка, весела, бацька шоргаў кірзавымі ботамі, ледзь паспяваючы за ім. Пакуль узабраліся — задыхаліся. Перад вачыма адкрыўся такі далягляд, што яны на хвіліну спыніліся.

Недзе ўнізе хавалася пад купамі бяроз і ліп Заброддзе. А наўкол палі. Ад пагорка і да самай вёскі стаялі льны. Вецер плыў па іх светла-зялёнымі хвалямі, і на грабянях хваляў ярка ўспыхвалі блакітныя агеньчыкі кветак. У нізіне хвалі былі цямнейшыя — лён там ого як выцягнуўся, і вецер губляў у ім сваю сілу. Далей, за вёскай, бялелі абшары збажыны.

Каля самай вёскі яны выбіліся на нешырокую дарогу, парэзаную калёсамі, зацярушаную сенам. Дарога праскоквала праз гулкі гарбаты масток, і адразу яе абступалі платы, а з-за іх паглядалі цёмнымі вокнамі хаціны. Толькі першая хата справа была нібы з завязанымі вачыма: вокны забіты пасівелымі ад дажджоў дошкамі, на дзвярах вялізны, пабіты іржой замок. Каля хаты раскінула голле яблыня, многія сукі абламаны; і толькі зверху вісела з дзесятак. відаць, ранніх яблыкаў.

— Ай-яй-яй, як пакалечылі дрэва, — узрушыўся бацька. — Гэта ж трэба так нішчыць дабро!

Хат праз дзесяць павярнулі ў прасторны двор — тут і жыла сястра. Каля зруба корпаліся мужчыны: было пакладзена ўжо вянкоў з пяць. Андрэй з бацькам і ў хату заходзіць не сталі: так звонка цёхкалі тапары, так паспешна румзала піла, што яны адразу накіраваліся туды. Пахла смалістым дрэвам і мохам.

— Памагай бог, мужчыны! — выгукнуў бацька.

— Казаў бог, каб сам памог, — азваўся чорны, як жук, чалавек.

Не спяшаючыся, да бацькі падышоў сястрын муж Віктар. «Ну, качка, ды і ўсё», — міжволі падумаў Андрэй, гледзячы, як Віктар валюхаецца з боку на бок.

Прывіталіся.

— Добра, што прыехалі. Пэўна, не снедалі яшчэ? — спытаў Віктар.

— Не, нічога. Перакусілі, панімаіш, на дарогу.

Мужчыны прыселі пакурыць. Бацька спрактыкавана аглядаў дрэва, і з камля, і з вяршаліны, доўга калупаў яго чорным патрэсканым ногцем.

— Відаць, нічога мацяр'ял. Сасна добрая. Панімаіш, смаляк, стрыжань.

— Можна было яловага лесу купіць, — азваўся Віктар. — Але дорага запрасілі.

— Ёлка і горай. Сасна зверху спарахнее, а ў сярэдзіне крэпкая. А ў ёлкі, панімаіш, стрыжня няма. Зверху як бы і нічога, а ўнутры адзін пыл.

— Ой, не кажы, браце, — умяшаўся, не ўтрываў чарнавалосы. — І сасна сасне розня. Калі яе без паняцца даіць штогод, калі смалу збіраць без перадыху, то адкуль жа ў ёй, чалавеча, стрыжань той будзе?

— Ну, не ўсюды, панімаіш, без паняцца робіцца...

— То-то і яно. Тут, як пападзе.

— Ат, дзядзька Іван, на наш век хопіць, — махнуў рукой Віктар.

— На твой век, панімаіш, і гэтай хапіла б, — кіўнуў у бок старой хаціны бацька.

— Але ж, відаць, не толькі пра свой век думаеш, калі будавацца пачаў.



— Кожны з нас думае не толькі пра сябе. Каб было не так, то не было б парадку на зямлі, — дзядзька Іван моцна зацягнуўся цыгаркай, якая ледзь не ўспыхнула агнём. — Кожны з нас думае, як лепш, але не заўсёды атрымліваецца. Вунь і Алена некалі будавалася, думала, што парадак будзе. А як прыйшлося, дык і жыць няма каму. Стаіць хата, гніе без дагляду.

Мужчыны дакурылі, падняліся з берваяна.

— Не спяшайцеся, перадыхніце, — спрабаваў затрымаць іх Віктар.

Задзынкалі пілы, уразаючыся ў дрэва, застукалі тапары. Дзядзька Іван быў за кіраўніка. Ён паспяваў усюды: нешта замяраў, нешта падказваў, а то і сам браўся за тапор, калі на словах было цяжэй растлумачыць, чым на дзеле. І быў узрушаны і ўрачыста вясёлы.

— Талент у чалавека, — гаварыў Віктар бацьку. — Бач, які ён цяпер. Як на парадзе. А то і слова лішняга не ўчуеш, ходзіць вечна галаву павесіўшы. А хату людзям ставіць — нанава чалавек нараджаецца. Адным словам — талент.

Віктар цмокаў языком, па-мядзведжы пераступаў вялізнымі ботамі, і тапор у яго руках здаваўся дзіцячай цацкай.

Сонца падымалася вышэй і вышэй. Стаяла спякотная цішыня — ветрык шапацеў недзе ў вершалінах ліп. Раз-пораз над вухам гулі пчолы.

Дзядзька Іван загнаў Андрэя на зруб:

— Лезь, лезь наверх. Ты маладзейшы. Стары, калі бразнецца адтуль, дык і косці рассыпле. А ў цябе галава крапчэй. Я калісьці на зрубе па бэльцы хадзіў — і хоць бы хны. Цяпер не магу.

Бацька акуратна разматаў са свайго тапара анучку, і стаў вастрыць аловак, які ўзяў у дзядзькі Івана.

— Панімаіш, учора даводзіў-даводзіў, а відаць, слабавата. Вечарам, у цемнаце...

— Нічога сабе слабавата, — засмяяўся Віктар, на момант адарваўшыся ад работы. — Карандаш вострыць, як ножык.

— А ну, дай паспрабаваць. Даўно не рабіў гэтай работы,—бацька пацясніў Віктара, пераступіў цераз бервяно, на якім быў адзначаны паз, і напляваў на рукі. Віктар пастаяў побач, прыглядаючыся, як спрытна і хутка, нібы гуляючы тапаром, працуе бацька, а потым здагадаўся, што той і не думае ўступаць яму месца, палез на зруб, дзе Андрэй з дзядзькам Іванам запілоўвалі вугал. Бацька глянуў яму ўслед, усміхнуўся і зноў схіліўся над бервяном. Сухашчавая, нават шчуплая постаць яго рухалася рытмічна, зладжана: падзюбае, падзюбае, прыўзніме галаву, пакрытую зашмальцаванай кепкай з пакамячаным брылём, адступіць на крок. Зноў падзюбае і зноў адступіць. І так аж да канца бервяна.

— Гатова, панімаіш! — задорна крычыць пасля, збіваючы кепку на патыліцу.

Падыходзяць мужчыны, дзядзька Іван прыдзірліва глядзіць паз, нібы работу прымае.

З крыкамі «давай-давай» падымаюць бервяно на сцяну. Яно лажыцца на месца, як улітае.

— Хе, — кажа дзядзька Іван, пaглядаючы на бацьку. — Відаць, не новая для цябе работа.

— Сам падумай, дзве вайны на нашым вяку. Прыходзілася, панімаіш...

Андрэй адчувае, што ўходаўся. Узмакрэла спіна, ныюць рукі. Яго стараюцца выгарадзіць, не дапусціць да цяжкай працы. Але ён не слухаецца, цягае разам з усімі бярвенне, тужыцца з апошніх сіл.

Нават кароткі перапынак не асвяжыў. Андрэй распрануўся да пояса. Загарэлы, з вымазанымі ў смале рукамі, стомлены, ён, відаць, вельмі падабаецца бацьку.

— Нічога-нічога, — падбадзёрвае Цімох сына. — Няхай лішняя вада выходзіць. Дужэйшы будзеш. Толькі дарма распрануўся, панімаіш. Горай упарышся.

Мужчыны таксама прытаміліся, раз-пораз выціраюць узмакрэлыя ілбы. Адзін Віктар працуе, як і раней: ні асаблівага задору, ні стомы. Валюхаецца сабе з боку на бок, ды яшчэ паспявае, дзе цяжэй.

К вечару чуць не здарылася бяда. Мужчыны падымалі бервяно на сцяну, і дзядзька Іван спатыкнуўся на трэсках. Андрэй з бацькам ледзь трымалі камель, баючыся прыціснуць ім дзядзьку Івана.

Як здалося ўсім, Віктар надта ж няспешна падышоў — бацька аж завохкаў ад нецярплівасці. А Віктар падняў камель, узваліў яго на плячо, разагнуўся. Бервяно павісла над мужчынамі — ростам Віктар вышэй за ўсіх. Падхапіўшыся, дзядзька Іван закамандаваў, як ні ў чым не бывала:

— Андрэй, лезь наверх, пераймаць дапаможаш. А ты, Цімох, прытрымлівай канец, што на сцяне. Ды хутчэй, спаўзе а то!

Потым Віктар зноў узяўся за тапор і моўчкі дзюбаў ім, выбіраючы паз.

Вечар быў залацісты, як сланечнік. У хаце ўжо чакала мужчын добрая чарка і закусь, ад якой, як кажуць, аж стол гнуўся.

— Годзе, мужчынкі. На сёння хопіць, — клікала сястра вячэраць.

Але мужчыны не спяшаліся ў хату. Чарадой накіраваліся яны да ракі, што непадалёку вырывалася з алешніку на лугавіну. За ракой чырвоныя каровы ў воблаку залатога пылу, нетаропка гойдаючыся, моўчкі ішлі дадому. Толькі адна з іх раз-пораз спынялася, паднімала галаву ўгару і працяжна рыкала, а недзе на аселіцы за агародамі адзывалася ёй цяля.

Вада ў рацэ была, як паранае малако. Нават лёгкая пара кружылася над ракой — нагрэтая вада аддавала цяпло надыходзячай ночы.

Старэйшыя мужчыны адышліся туды, дзе беражок больш пакаты, і пачалі мыцца. Андрэй жа рашыў пакупацца — надта ж напарыўся за дзень. Спакусіўся і Віктар. Ён таксама пацюхаў да крутога берагу, але, не дайшоўшы да краю, раптам імпэтна плюхнуўся ў ваду.

— Го-го-го! Га-га-га! — смяяліся мужчыны, і рэха неслася па наваколлю. — Во, мядзведзь уваліўся. Адразу вада ў рацэ на мэтру паднялася...

Ветлівае, шумнае застолле пачалося важна і няспешна. Сястра ўвішна хадзіла ля стала і толькі зрэдку садзілася на край лаўкі. Запрашала:

— Вячэрайце, мужчынкі, вячэрайце.

— Не турбуйся. Хлеб на стале, рукі свае, з голаду не памром, — жартаваў дзядзька Іван.

— Так то яно так, — казаў Віктар, наліваючы гарэлку, — але лепш за ўсё, як і да хлеба ёсць што-небудзь. Адзін хлеб цяпер ужо не яда. Во, падымайце чарку, каб цяплей было. Тата, мужчыны, давайце!

— Мала ты за дзень напарыўся. Холадна яму, — бурчэў бацька, а сам адной рукой асцярожна пагладжваў вусы, другой падымаў шклянку.

Некаторы час размоў не было. Андрэй адчуў, як гарэлка пекануля ўнутры, і таксама налёг на закусь. А яе хапала.

Пасярэдзіне стала ў місцы дымілася рассыпчатая бульба, прыпарушаная лапкамі кропу, а побач аддавалі халадком склепу пузырыстыя маласольныя гуркі з прыліплым вішнёвым лістом. Тут жа ляжаў расчыкрыжаны качанчык квашанай капусты. Былі яшчэ гуркі свежыя, і стаялі яны каля ладнай талеркі празрыстага ліповага мёду. А паміж імі ў талерках ружавела вяндліна, прывабныя колцы кілбасы. І тварог са смятанай, і сыр бялелі, як рамонкі на лузе, дражнілі сваімі пахамі і ўпляталіся ў цэлае мора другіх не менш прыемных пахаў.

— Ну, што, мужчыны, трэба паўтарыць, — ні то пытаўся, ні то абвяшчаў Віктар.

Сястра падказвала:

— Ты не пытайся, а налівай.

— Ды пры такім стале можна і па другой, — пагаджаўся дзядзька Іван, выціраючы загарэлы лоб рукавом.

Сястра адкрыла вакно, лёгкі вецярок адразу надзьмуў фіранку, потым супакоіўся. Пацягнула халадком. Чуваць было, як недзе воддаль грае гармонік.

— Сымонка дзяўчат кліча. Амаль адзін застаўся. Як певень сярод іх... — і ўздыхнула, нешта ўспомніўшы, сястра.

— Не трымаюцца маладыя за зямлю, — пасур'ёзнеў дзядзька Іван. — Не, не трымаюцца. А яна, зямелька, ох, як маладыя рукі любіць. І клубы будуюць, і артысты розныя весяліць іх прыязджаюць, а не тое. Не любяць зямлю. А ад яе ўсё: і пачатак і канец наш. Эх, ды што гаварыць! Давай, Віктар, вып'ем за тое, каб у тваёй новай хаце век-векам людзей было поўна, каб дзверы-вокны ў ёй ніхто ніколі не закалочваў.

Мужчыны выпілі, але прысмакі не вабілі ўжо так, як спачатку. Сёй-той хрумстаў гурок, другія цягнуліся да мёду, а бацька зусім адсунуўся ад стала, выцер вусы, непрыкметна паслабіў на вочка папругу, каб лягчэй дыхалася, і пачаў разважаць:

— Гэта ж, браце, як цяпер атрымліваецца. Паедзе малады хлопец у горад на вучобу, ажэніцца там, і назад у вёску ходу няма: жонка, панімаіш, не едзе!

— Э, дзела не ў жонках. Аленін сын во на сваёй, на вясковай ажаніўся, а ў вёску лыч не паказвае. «Цемната-а-а», кажа, — перадражніў дзядзька Іван. — А калі разабрацца папраўдзе, што ён і ў тым горадзе, акрамя піўной, бачыць? А тут хата гніе, сад прападае. Твой во таксама хутка на свой хлеб выйдзе, —ківае дзядзька Іван на Андрэя. — Можа, і ён скажа, што жонка ў вёску не пускае...

— Пакуль яму, панімаіш, жаніцца, можа другая мода будзе. Можа з горада ў вёску бегчы будуць.

— Можа і будзе... Ну, а наконт таго, калі жаніцца, цяпер не надта ў бацькоў пытаюцца. У наш час крыху інакш было, — дзядзька Іван крыху памаўчаў. Потым, усміхнуўшыся, крутануў галавой: — Памятаю, з доўгай кашулі вырас, порткі пашылі, стаў я на вечарынкі хадзіць. Падабалася мне адна краля: заўсёды ў новых лапціках, вясёлая такая. Узяў аднойчы яе за руку, кажу, пойдзем да бацькі блаславення прасіць. Пайшлі. А бацька мой якраз у гумне вяроўкі віў. Кажу яму: так і так, жаніцца хачу. Той вочы вылупіў: ах, ты, кажа, блазнюк, я ж цябе зараз ажаню! А сам хвать лейцы з крука. Лейцы ўсе ў вузлах. І давай ён мяне гэтымі лейцамі ўздоўж і ўпоперак бласлаўляць. Я, мусіць, пасля і на вечарынкі не стаў хадзіць.

Мужчыны ўсміхаліся.

— Во, ажаніў, — круціў галавой Віктар, не перастаючы разбіраць на лісточку акрайчык качана.

— А як жа краля? — не вытрываў, спытаў Андрэй. За гэтай, нібы вясёлай гісторыяй, ён адчуў у дзядзькі Івана даўні патаемны сум.

Дзядзька махнуў рукой, сказаў толькі:

— Краляў, сынок, на свеце многа...

Загарэлай рукой з набухлымі венамі ён узяў гурок, разглядзеў яго з усіх бакоў і з'ядла, сакавіта адкусіў палавіну.

Андрэй вылез з-за стала, выйшаў на вуліцу. Як стомлены, натруджаны чалавек, дыхала зямля. Было ціха. Толькі дзесьці далёка граў гармонік. І ні песні, ні дзявочага смеху. Выпала раса: яна буйнымі кроплямі, нібы слёзы малечы, пасыпалася з куста бэзу, які зачапіў плячом Андрэй, праходзячы да лаўкі ў гародчыку.

# АПОШНІ ДЗЕНЬ

У нядзелю раніцай стары Мікалай выйшаў з вёдрамі на ганак і спыніўся, прыжмурыўшы вочы. Быў канец лютага, калі сонца пачынае набіраць сілу і ўсё часцей і хлапатлівей пазірае на заснежаныя прасторы, нібы прыкідваючы, на колькі дзён тут работы. Бярозы каля плоту аблеплены снегам — учора вечарам гуляла мяцеліца, ды так гуляла, што за два крокі нічога не было відаць. А сёння мароз, цішыня, сонца. Скрыпяць на шашы палазы — людзі едуць на кірмаш. У нос б'е марозным паветрам, пахам аўчыны, махоркі і падгарэлага сала — напэўна нейкая гаспадыня выскачыла да суседкі за чым-небудзь, а тая цікавых навін сабрала, ды так многа, што за хвіліну і не раскажаш — вось і падгарэла сала на патэльні.

Мікалай усміхнуўся, паволі сышоў з ганку і па вузенькай глыбокай сцежцы паплёўся да студні. Больш паўвеку пражыў ён у гэтай вёсцы. Як гэта многа і як мала? Зусім мала. Адна хвіліна — і ўсё жыццё перад вачыма пройдзе. Слабець стаў Мікалай. Сам заўважае. Але не любіць скардзіцца на свае хваробы. Каму гэта трэба? Родным ці суседзям? Ім і так клопатаў хапае. Сабе? Лягчэй не стане. Старасць, як-ніяк, нічога не папішаш.

Па вуліцы, цяжка апіраючыся на кій і падцягваючы правую нагу, кульгае Сымон.

— Дзень добры, Мікалай.

— Добры, добры. Ты куды гэта сабраўся, сусед? Ці не ў сваты? — Мікалай кіўнуў на новыя валёнкі, якімі Сымон са скрыпам падмінаў пушысты снег.

— Дзе там у сваты! Нага, бадай яе, пакою не дае. Што ні дзень, усё больш баліць. Паеду да доктара.

Мікалай паглядзеў услед Сымону, і раптам прыпомнілася яму іх партызанскае жыццё і той начны бой, калі быў паранены Сымон, і тое, як цягнуў ён суседа на сабе, а немцы насядалі, хацелі ўзяць іх жывымі...

Мікалай адагнаў успаміны, пацягнуў вочап. Журавель заскрыпеў працяжна і нейк трывожна. Паставіўшы вядро з вадой на снег, Мікалай разагнуўся і... хапіўся за грудзі: здавалася, нехта вострым шылам пракалваў сэрца. Раз, другі, трэці... Цяжка ўздыхаючы, даплёўся ён да плоту, абапёрся на яго, але ногі не трымалі старога, і ён паціху стаў апаўзаць на снег. Па вуліцы ішла каваліха, убачыла Мікалая, падбегла да яго:

— Мікалай, Мікалай, што з табой?

— Паміраю, Данілаўна...

І ён апусціў руку з плоту, які вясной сам ставіў замест струхлелага, уздрыгнуў і пахіснуўся на бок. Шапка з'ехала на ўзапрэлы лоб, на твар. Данілаўна замітусілася, прыгаворваючы:

— Як жа так, як жа так...

З хаты выбегла нявестка Мікалая, а праз хвіліну жаночы лямант нібы нажом, паласнуў ранішнюю цішыню.

Па вёсцы ад хаты да хаты пайшла вестка, і кожны чалавек успрымаў яе па-рознаму.

— Гавораць, Мікалай памёр. Нешта не верыцца. Не хварэў жа ніколі...

— Адпрацаваўся, нарэшце. Усё, бывала, хвіліны не пасядзіць...

— Нічога не зробіш. Час падышоў...

— Эх, Мікалай, Мікалай...

На шашы скрыпелі сані, гаманілі людзі. Задуменна, нібы помнікі, стаялі аблепленыя снегам бярозы — іх пасадзіў Мікалай яшчэ маладым хлопцам. Новы дзень пёс новыя клопаты.



Мал. У. Пашчасцева.

# У КНІГАРНЮ ПРЫЙШЛІ МАСТАКІ

*ВЫСТАЎКА-ПРОДАЖ БЕЛАРУСКАГА ЭСТАМПА*



**Першае слова ўзяў Сямён Герус.**

Фота Ул. КРУКА.

У Мінскай цэнтральнай кнігарні адбылася выстаўка-продаж беларускага эстампа. У магазіне сабралася многа пакупнікоў.

— У кожным горадзе і пасёлку,— сказаў мастак С. Герус,— цяпер шмат навасёлаў. Многіх хвалюе, як зрабіць сваю кватэру больш утульнай і прыгожай. Эстамп у гэтым памагае. Ён і недарагі і арыгінальны твор мастацтва.

С. Герус расказаў, як «нараджаецца» эстамп, паказаў пласціну, з якой друкуюцца адбіткі.

Загадчыца аддзела выяўленчага мастацтва магазіна А. Семяненка прапануе пакупнікам вялікі выбар эстампаў беларускіх графікаў. Першай набыла эстамп мастака В. Ткачука «Красавіцкі снег» школьніца Лёдзя Віткевіч. Яна прыехала ў Мінск з Валожына.

Да мастакоў падыходзяць пакупнікі, задаюць пытанні, просяць аўтограф. На гэты раз у продажы няма эстампаў Анатоля Волкава, і ён ставіць аўтограф на кнізе Даіра Слаўковіча «Каласавічок», якую афармляў.

Інжынер-будаўнік, член савета сяброў кнігі магазіна А. Стрэльцыс любіць кніжную графіку беларускіх мастакоў. Яго калекцыя аўтографаў нашых майстроў кнігі папоўнілася на гэтай сустрэчы подпісам А. Волкава.

А мастак С. Герус нечакана сустрэўся ў магазіне з даўнім сваім знаёмым. Таму было прыемна набыць эстамп з аўтографам мастака-земляка.

Шкада, што Мастацкі фонд «не паспеў» да гэтай сустрэчы дастаткова забяспечыць магазін графічнымі лістамі беларускіх мастакоў, попыт на якія звычайна немалы.

**Калектыў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніку рэдакцыі І. А. Сучкову ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.**

## *З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ*

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАФІКА. 1970

**В. ШМАТАЎ**



НАЙБОЛЬШ аптымістычныя прагнозы развіцця нашага выяўленчага мастацтва ў апошнія гады часцей за ўсё звязваліся з графікай. Дастаткова пераглядзець артыкулы аб выстаўках нядаўніх гадоў, каб пераканацца, што графіцы адводзілася ў іх калі не першае, то, прынамсі, віднае месца. І, трэба сказаць, былі падставы.

Апошняе дзесяцігоддзе ў развіцці нашай станковай і кніжнай графікі — дзесяцігоддзе яскравых перамен, якія аднолькава выразна выявіліся як у яе змесце, так і ў форме. Гэтыя перамены шмат у чым звязаны з творчасцю такіх таленавітых мінскіх мастакоў, як А. Паслядовіч, А. Кашкурэвіч, Н. і Г. Паплаўскія, І. Немагай, Б. Забораў, Я. Раманоўскі, Л. Асецкі, Ю. Тышкевіч, В. і М. Басалыгі, В. Шаранговіч і інш. Актыўна заявіла пра сябе і наша «графічная правінцыя» — В. Ральцэвіч, Ф. Гумен, Г. Шутаў (Віцебск), Я. Пакаташкін (Гомель), Г. Захараў (Гродна), У. Садзін (Слуцк) і г. д.

Зразумела, развіццё нашай графікі абумоўлена не толькі прыходам новых мастакоў. Нельга не прымаць пад увагу эвалюцыі разнастайных відаў і жанраў графікі, пашырэння яе стылявых магчымасцей.

Таму лёгка зразумець цікавасць, з якой мы чакалі выступлення графікаў-станкавістаў на сёлетняй вельмі адказнай выстаўцы, прысвечанай Ленінскаму юбілею.

НОВЫЯ графічныя творы паказалі 55 мастакоў. Побач з майстрамі старэйшага пакалення — М. Тычынам, Б. Малкіным, А. Волкавым, С. Раманавым, М. Гуціевым, П. Дурчыным і іншымі ў выстаўцы прымаюць удзел яшчэ зусім «не абстраляныя» мастакі Ю. Зайцаў, У. Пашчасцеў, У. Самачорнаў, І. Капялян.

Значнае месца ў экспазіцыі займаюць творы, прысвечаныя У. І. Леніну — лісты І. Немагая і К. Касмачова, П. Калініна і П. Герасімовіча, М. Моўчана, М. Бельскага і іншых, творы аб працоўных буднях рабочых і калгаснікаў рэспублікі, аб гераічнай гісторыі нашага народа.

Разнастайныя і формы нашай графікі: ёй падуладны лінагравюра і літаграфія, афорт і акваціпта, акварэль і сепія. Прыемна, што эстамп многіх нашых графікаў дасягае «ўсесаюзнага ўзроўню».

Вось перад намі каляровыя літаграфіі А. Паслядовіч — «Зімовыя вечары», «Лета ўраджайнае», «Раніца», «Суровы час». Яе лісты ўражваюць і захапляюць. У мастачкі — тонкае, паэтычнае светаадчуванне, глыбокае разуменне нацыянальнага тыпажу і каларыту, своеасаблівы графічны «почырк». Якой мудрай мастакоўскай задумлівасцю, светлай унутранай засяроджанасцю, чалавечнасцю абвеяны вобразы яе літаграфіі «Суровы час». Непаўторныя рысы індывідуальнага ўспрыняцця яшчэ больш ярка выяўляюцца ў яе працах на тэмы сучаснасці, беларускага фальклору. Тут ужо лірыка-паэтычнае дараванне А. Паслядовіч раскрываецца ў поўную сілу. Будзённая сцэна збору садавіны («Лета ўраджайнае») набывае ўзнёслы паэтычны сэнс і высакароднасць. А колькі таямнічай загадкавасці, прадчування чагосьці вельмі важнага (можа, першага кахання?) ў літаграфіі «Зімовыя вечары», колькі шчырасці, светлай чалавечай цеплыні ў чыстых дзявочых тварах, у вачах, у постацях. У мяккіх акругленых лініях, у казачным мігценні цёплых каляровых плоскасцей. Бадай, гэта лепшая праца А. Паслядовіч на выстаўцы.

Чыстае ад дробязей і ўсяго выпадковага, мастацтва А. Паслядовіч глыбока нацыянальнае як па сваім духу, светавыяўленні, так і па форме.

Важкі літаграфскі камень у мастачкі не аморфны, не бясстрасны, не вострыі не рэжучы, у яе камень амаль не адчуваецца. Яна здабывае з яго эфекты, якія па лёгкасці і празрыстасці не саступаюць акварэлі.

Цікавыя работы паказаў і А. Кашкурэвіч. Серыя афортаў «Партызаны» — не толькі новы крок у творчасці таленавітага мастака, але і бясспрэчнае дасягненне ўсёй нашай графікі.

Лісты ўражваюць майстэрствам тэхнікі і малюнка, адметным кампазіцыйным дарам мастака, вобразным багаццем, трапяткім пачуццём. Калі ў А. Паслядовіч пераважаюць спакойныя, плаўныя контуры, дык у А. Кашкурэвіча лініі — складанае арнаментальнае пляценне. Прывабнасць твораў А. Кашкурэвіча можна па-сапраўднаму зразумець, разглядаючы кожную іх дэталь. У яго афортах няма «агульных месц»: як руплівы гаспадар, ён дбайна апрацоўвае кожны кавалачак друкарскай дошкі.

Сіла літаграфій А. Паслядовіч у спакойнай паэтычнай раўнавазе, абагульненасці і суладдзі ўсіх кампанентаў. Стыхія А. Кашкурэвіча — дынаміка, рух, экспрэсія ліній і танальных плоскасцей, нейкі трывожны ўнутраны неспакой. Такі лад дыктаваўся самой тэмай: А. Кашкурэвіч паказвае нялёгкае, поўнае цяжкіх выпрабаванняў жыццё беларускіх партызан.

Экспрэсіўнасць графічнага почырку — адметная рыса даравання А. Кашкурэвіча. Прыгадаем яго серыю «Шклозавод «Нёман» (1966), ілюстрацыі да купалаўскага «Кургана» (1967), да рамана У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» (1968). Фармальныя, тэхнічныя і стылявыя знаходкі А. Кашкурэвіча, якія ў пэўнай ступені акрэсліліся ў гэтых працах, у серыі «Партызаны» прагучалі больш выразна. Вось, напрыклад, афорт «Партызанскія маці» — лепшы ліст серыі. Тры кабеты, седзячы на зямлі, набіваюць патронамі кулямётныя стужкі. Набіваюць спакойна, упэўнена, быццам робяць сваю спрадвечную сялянскую працу.

У гэтым лісце шчаслівая знаходка — ужо ў самой задуме: жанчыны, якім бы толькі карміць дзяцей, даглядаць і абшываць іх, тварыць дзівосы на дыванах і ручніках, сваімі спрацаванымі рукамі рыхтуюць... зброю!..

Афорт і добра задуманы, і выкананы высока прафесійна. Кожны вобраз — яркі запамінальны тып, з характэрнымі індывідуальнымі асаблівасцямі. Запамінаецца вобраз маці — пажылой беларускай сялянкі з кулямётным дыскам у руках. Кампазіцыйна яна размешчана ў лісце так, што галава аказалася на цёмным фоне пірамiды вінтовак. Гэтае нечаканае кампазіцыйнае супастаўленне ўзмацняе сілу ўздзеяння вобраза.

Наогул, А. Кашкурэвіч вельмі ўважлівы да дэталяў. Ён тонка прадумвае суладдзе кампанентаў, іх узаемадзеянне. Так, у лісце «На шчасце і на гора» рукі партызан-маладажонаў, што трымаюцца разам, змешчаны за спіной побач з наганам. Такое зблізжэнне — вельмі трапны і дакладны акцэнт у творы.

Як і літаграфіі А. Паслядовіч, лепшыя афорты А. Кашкурэвіча (у прыватнасці, ліст «Партызанскія маці») — на ўзроўні дасягненняў савецкага эстампа ўвогуле.

КАЛІ два першыя месцы на выстаўцы наўрад ці могуць выклікаць сумненне, дык на трэцяе можа прэтэндаваць кожны з астатніх удзельнікаў. Мы можам з роўным правам разглядаць далей і афорты Я. Раманоўскага ці Л. Асецкага, літаграфіі С. Раманава, І. Немагая, І. Дучыца, лінагравюры В. Ткачука і У. Садзіна, акварэлі Л. Лейтмана і А. Волкава і г. д.

Пра што гэта гаворыць? Пра тое, што наша станковая графіка дасягнула пэўнага тэхнічнага ўзроўню, наблізілася да нейкага сярэдняга выставачнага стандарту, што, як трапна падмеціў адзін з гледачоў, нашы графікі навучыліся «правільна» ўсё маляваць і без усякіх цяжкасцей выконваць свае малюнкі ў любым матэрыяле».

«Прыстойна, звычайная графіка»... Гэтая характарыстыка падыходзіць да многіх серый, паказаных на выстаўцы.

Я зусім не лічу, што акрамя А. Паслядовіч і А. Кашкурэвіча, нашы графікі — нейкія безаблічныя, пасрэдныя, падобныя, як адбіткі з аднаго кавалка лінолеуму. Наадварот, такія высокакваліфікаваныя мастакі, як Г. Паплаўскі, Ю. Тышкевіч, І. Немагай, Я. Раманоўскі, Л. Асецкі і іншыя, здольныя на вельмі многае — варта ўспомніць іх ранейшыя творы. Але на гэты раз яны выступілі яўна ніжэй «сваіх магчымасцей».

Спынімся, напрыклад, на працах І. Немагая. Яго ілюстрацыі да аповесці З. Бядулі «Салавей» (1960), лінаграваюры...



# ПЯСНЯР ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

**ДА 450-ГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ РАФАЭЛЯ**

У ГІСТОРЫІ сусветнага мастацтва не так многа імёнаў, якія можна паставіць побач з імем вялікага італьянскага жывапісца эпохі Адраджэння— Рафаэля. Творчасць гэтага майстра з Урбіна здзівіла і пакарыла сучаснікаў. Яна вось ужо больш як чатыры з паловай стагоддзі працягвае ўздзейнічаць на ўяўленне чалавецтва, з кожным стагоддзем, з кожным годам — па меры аддалення — становіцца ўсё больш грандыёзнай і загадкавай. Здаецца неверагодным, што мастак, які пражыў усяго 37 гадоў, мог пакінуць столькі твораў! Кожны з іх назаўсёды стаў прадметам пакланення мастакоў і гледачоў.

Рафаэль Санці нарадзіўся ў 1483 годзе ў сям'і сціплага правінцыяльнага мастака Джавані Санці, які і быў першым настаўнікам будучага вялікага жывапісца. Пасля смерці бацькоў адзінаццацігадовы Рафаэль працягвае займацца жывапісам пад кіраўніцтвам урбінскага майстра Цімацэо дэла Віта, а пазней завяршае мастацкую адукацыю ў майстэрні выдатнага жывапісца П'етра Ванучы (Перуджына) у горадзе Перуджы. Тут жа Рафаэль стварае свае першыя палотны — «Сын рыцара», «Мадонна Канестабіле» і інш. Яны падкупляюць натуральнасцю і прастатой, зграбнасцю ліній і паэтычнай чысцінёй. Працуючы ў Перуджы і стаўшы ўжо сталым майстрам, Рафаэль марыць аб Фларэнцыі, гэтай бліскучай сталіцы мастацтваў, дзе ўжо акрэсліваліся высокія жыццесцвярджальныя ідэалы прыгажосці і гармоніі, характэрныя для эпохі італьянскага Адраджэння.

Эканамічнае становішча Італіі XIII—XVI стагоддзяў дазволіла Фларэнцыі заняць адно з самых перадавых месц сярод еўрапейскіх дзяржаў. Яна першай з іх ажыццяўляе пераход ад феадалізму да пачатковай стадыі капіталізму. Поспехі навукі, у прыватнасці анатоміі, выклікалі небывалую цікавасць да чалавека, яго асобы, прыгажосці яго цела, гармоніі форм. Мастакі адыходзяць ад умоўных вобразаў сярэдневякоўя і звяртаюцца да рэальнага свету, да чалавека. Іменна тут, у Італіі XIII—XVI стагоддзяў, закладваюцца асновы рэалізму ў мастацтве Заходняй Еўропы. Гэтаму спрыяюць і знойдзеныя пры раскопках помнікі антычнасці, якія звярнулі на сябе ўвагу мастакоў. У выдатных узорах старажытнасці людзі знаходзяць свае ідэалы. Мастакі лічаць сябе спадкаемцамі вялікага антычнага мастацтва і пад яго ўплывам ствараюць грамадскія будынкі, карціны і скульптуры, якія адпавядаюць новым эстэтычным імкненням. З імёнамі вялікіх майстроў Адраджэння Леанарда да Вінчы і Мікеланджэла звязаны росквіт мастацтва Італіі XV—XVI стагоддзяў — Высокага Адраджэння. І тут, на рубяжы двух стагоддзяў, з'яўляецца імя Рафаэля...

Рафаэль пераехаў у Фларэнцыю. Тут ён працягвае вучыцца ў вялікіх майстроў. Усё лепшае са створанага настаўнікамі ён геніяльна пераўвасабляе ў сваёй творчасці. Некалькі гадоў, праведзеных у Фларэнцыі, прынеслі яму славу «песняра мадонны» — вобраза надзвычайнай унутранай чысціні і прыгажосці. Тут былі створаны Рафаэлем «Мадонна Тэмпі», «Мадонна Калона», «Мадонна Грандука», «Мадонна са шчыглянём» — серыя твораў, якіх ужо было б дастаткова, каб імя Рафаэля стала вядомым усяму свету. І тым не менш, галоўнае, што зрабіла імя Рафаэля бессмяротным, яшчэ чакала яго наперадзе.

Поўны сіл і энергіі, дваццаціпяцігадовы Рафаэль пераязджае ў Рым. Тут яму трэба было выканаць фрэскі для сабора святога Пятра, які будаваў яго славуты зямляк архітэктар Браманье. Рафаэль з захапленнем узяўся за работу. Фрэскі павінны былі ўслаўляць рэлігію, філасофію, паэзію і правасуддзе. Гэты выбар мастака быў прадыктаваны вялікімі прынцыпамі рымскіх гуманістаў, якія праслаўлялі свабоду чалавечага розуму, натхнення і творчасці. Рафаэль смела разбурае старую схему, згодна з якой філасофія або паэзія адлюстроўваліся ў выглядзе алегарычных фігур з адпаведнымі атрыбутамі, і разгортвае вялікія шматфігурныя кампазіцыі — «Дыспут», «Афінская школа», «Парнас» і «Юрыспрудэнцыя».

Самым выдатным тварэннем Рафаэля стала фрэска «Афінская школа». Тут паказаны сход антычных філосафаў, матэматыкаў, астраномаў. У цэнтры мастак змясціў фігуры Платона і Арыстоцеля. Паказваючы вялікіх вучоных і філосафаў, Рафаэль сцвярджае сілу чалавечага розуму, непадуладнага тыраніі і дэспатызму. Мастак, такім чынам, выступіў выразнікам імкненняў перадавой часткі італьянскага грамадства, для якой дарагія былі ідэі гуманізму і чалавекалюбства. Чалавек як вянец тварэння, як самы высокі

гравюры «Дарога на нафтабазу» (1961) і іншыя ў свой час былі з'явай у нашай графіцы. Тэма, з якой І. Немагай прыйшоў да юбілейнай выстаўкі, таксама вельмі цікавая: графік прысвяціў свае працы сустрэчам У. І. Леніна з нашым земляком, ураджэнцам Магілёўшчыны П. Лепяшынскім. Наш слаўны зямляк шмат разоў маляваў Ільіча. У 1904—1905 гг. у Жэневе П. Лепяшынскі, карыстаючыся парадамі У. І. Леніна, стварыў серыю на меншавікоў і апартуністаў у рабочым руху. Гэтыя малюнкі, якія вельмі падабаліся У. І. Леніну, шырока разыходзіліся ў партыйным асяроддзі.

На жаль, гэтыя і шмат якія іншыя вельмі цікавыя факты адносін П. Лепяшынскага з Ільічом не асэнсаваны ў серыі І. Немагая. Графік абмежаваўся толькі стварэннем партрэта Ільіча і П. Лепяшынскага.

Добра ведаючы здольнасці Л. Асецкага, мы таксама маем падставы чакаць ад яго большага. У цікавай серыі афортаў «Будні Ваенна-Марскога Флоту» — відавочныя адзнакі рэпартажнасці, недастаткова пэўнае скарыстанне багатых магчымасцей афорта. У выніку афорты Л. Асецкага пры ўсіх іх станоўчых якасцях фактычна імітуюць малюнак пяром. А гэтага для эстампа — яўна мала.

Таленавіты графік-станкавіст І. Раманоўскі прадэманстраваў даволі багатыя магчымасці афортнай тэхнікі ў спалучэнні з акваціптай. Але многія тэхнічныя знаходкі І. Раманоўскага не глядзяцца ў кампазіцыйна аднастайных лістах, дзе мастак вялікім планам дае адны галовы.

Аўтар усім добра вядомай лінагравюры «Красавік. Сонечны дзень» (1960) Ю. Тышкевіч у новай серыі пайшоў па шляху неўласцівай яму плакатнасці, а працавіты і тэмпераментны М. Чэпік у лістах, прысвечаных Мінску, празмерна саладжавы. Чырвона-жоўта-зялёная маляўнічасць яго лістоў здаецца занадта лёгкаважкай.

Лінагравюры У. Садзіна рэпартажныя па задуме і мала самастойныя з тэхнічнага боку. Тое ж можна сказаць пра літаграфіі Ю. Зайцава, У. Пашчасцева, І. Капляна і інш. Гэтыя мастакі сумленна дэманструюць добра вядомыя прыёмы стандартнай тэхнікі і ў той жа час уражваюць здзіўляючай аднастайнасцю.

ЦЯЖКА, вядома, з усёй паўнатой адказаць на пытанне, чаму на гэтай выстаўцы нашы графікі выступілі ніжэй сваіх магчымасцей. Часткова гэта тлумачыцца тым, што побач са станкавістамі не паказалі сваіх прац ілюстратары, афарміцелі кніг. Мы не ўбачылі апошніх таленавітых твораў Г. і Н. Паплаўскіх, А. Лось, братоў Басалыгаў, П. Драчова, Я. Куліка і іншых.

Але, на мой погляд, асноўны недахоп у рабоце нашых графікаў-станкавістаў — замкнёнасць у коле абмежаваных, вузкіх інтарэсаў, недастаткова глыбокае даследаванне жыцця, нашай гісторыі, традыцый. Сусветна вядомыя гравюры выданняў Ф. Скарыны, працы П. Мсціслаўца, Максіма і Васіля Вашчанкаў усё яшчэ невядомыя многім нашым графікам.

Экспазіцыя графікі на гэтай выстаўцы красамоўна паказала здабыткі нашых майстроў эстампа і ў пэўным сэнсе акрэсліла пралікі ў іх творчасці.

Наперадзе — новыя пошукі.

---

**Ідэал гуманістычнай культуры — такая ідэя «Афінскай школы», галоўнага тварэння вялікага мастака.**

**Работа над фрэскамі не была адзінай у Рафаэля ў гэты час. Ён піша таксама выдатныя партрэты і карціны па заказах рымскай знаці. Але па-ранейшаму застаецца і «песняром мадонны». У Рыме Рафаэль стварае «Сікстынскую мадонну». Гэта ўжо не зямная жанчына, якая сядзіць на лузе або ў крэсле, як у ранніх творах, а чароўная дзяўчына, якая ўвасабляе ў сабе самую высокую дабрачыннасць, самае светлае і ўзвышанае пачуццё мацярынства, вечнай прыгажосці, любві і чалавечнасці. Такой яна была для сучаснікаў. Такой яна засталася для наступных пакаленняў. Такой мы бачым яе сёння.**

**У апошнія гады жыцця Рафаэль працуе ў галіне манументальнага роспісу.**

**Палітычнае і эканамічнае аслабленне Італіі ў канцы XV і пачатку XVI стагоддзяў, выкліканае раздробленасцю краіны, з аднаго боку, і адкрыццё новых марскіх шляхоў, якія перамясцілі гандлёвыя цэнтры ў іншыя краіны Заходняй Еўропы,— з другога, сталі прычынамі заняпаду некалі багатай і моцнай краіны. Да сярэдзіны XVI стагоддзя Італія траціць не толькі сваю магутнасць, але і амаль цалкам незалежнасць. Водгулле гэтых зрухаў знаходзіць адлюстраванне і ў мастацтве, якое перажывае глыбокі крызіс. У розных формах ён працягваўся даволі доўга. Праўда, гэта амаль не кранулася творчасці Рафаэля, які памёр у 1520 годзе ў росквіце свайго таленту.**

**Усё, што стварыў Рафаэль, вянчае сабой самую цудоўную пару ў гісторыі сусветнага мастацтва — эпоху Адраджэння.**

Э. ПЕТЭРСОН.

---

# «ПАЧЫНАЕМ ЛІТАРАТУРНУЮ ПЕРАДАЧУ...»



Хутка ў эфіры прагучаць вершы Міколы Хведаровіча. Супрацоўнік літаратурнай рэдакцыі паэт Юрась Свірка (справа) і аператар Таццяна Абадоўская сустрэліся з Міколам Фёдаравічам перад запісам перадачы ў радыёстудыі.
Фота Ул. КРУКА.

„ПАВАЖАНАЕ радыё. Я ўважліва, са слязьмі на вачах слухала пастаноўку «Адзін з сямі». Лёс аднаго з герояў пастаноўкі такі самы, як майго сына. Ён загінуў на вайне, у сорак першым, і я нават не ведаю, у якой зямлі пахаваны мой сыночак. За вашу разумную работу пажадаю вам добрага здароўя і многа шчасця ў жыцці.

Булка Ф.»

Гэта адно з 3292 пісем, атрыманых літаратурна-драматычнай рэдакцыяй Беларускага радыё за мінулы год.

Будзем шчырыя, не ўсё, што «выдае» ў эфір літаратурна-драматычная рэдакцыя заслугоўвае самай высокай ацэнкі. Ёсць і слабыя, шэрыя, невыразныя перадачы. Але перачытаў некалькі пісьмаў з пошты рэдакцыі і пазайздросціў калегам. Па-харошаму пазайздросціў. Як пяецца ў песні — «белай зайздрасцю».

Здорава, калі твой чытач, а ў дадзеным выпадку — слухач расчулены, усхваляваны да слёз тваім словам. Значыць, дайшло да сэрца! Ці не гэта лепшая ўзнагарода нашаму брату—журналісту...

Гэта замест уступу. А цяпер запрашаю нашых чытачоў, а яны ўсе і радыёслухачы (сёння радыё ў кожным доме), у маленькае падарожжа па Доме радыё. А калі больш дакладна, па другім паверсе Дома — менавіта там размешчана літаратурна-драматычная рэдакцыя.

Паспрабуем зазірнуць па гэты бок «куліс», даведацца, чым жыве рэдакцыя, што мае, пра што дбае? Галоўны рэдактар Анатоль Залеўскі паказвае так званую «сетку» літаратурна-драматычнага вяшчання. 6 гадзін на тыдзень. Мала? Але і ў гэтыя, здаецца, кароткія гадзіны радыёжурналістам удаецца «ўціснуць» безліч тэм. Гэта і радыёчасопіс «Паэзія» са старонкамі «Мой любімы паэт», «З паэтычнай спадчыны», «Новыя пераклады», «Гумар», гэта творчыя партрэты беларускіх пісьменнікаў, гэта перадачы пра мастацтва, гэта вершы і апавяданні пісьменнікаў, гэта «Наша радыёбібліятэка» з аглядамі часопісаў, рэпартажамі з канферэнцый слухачоў, гэта агляды пісьмаў, гэта, нарэшце, «Тэатр перад мікрафонам», радыётэатр і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ...

А. Залеўскі называе даволі цікавыя лічбы. Скажам, за мінулы год у эфіры прагучала больш 400 пісьменніцкіх выступленняў.

«Тэмпы» не зніжаюцца і сёлета. Не так даўно выступаў Іван Шамякін (чыталіся ўрыўкі з яго аповесці «Асветлены лёс»). Аляксей Кулакоўскі пазнаёміў слухачоў з раздзеламі свайго новага рамана «Сцежкі зведаныя і нязведаныя».

У той дзень, калі я завітаў у рэдакцыю, тут чакалі з хвіліны на хвіліну Кастуся Кірэенку, які абяцаў прынесці свае амерыканскія нататкі.

Зараз на падыходзе літаратурная перадача, прысвечаная кнігам Петруся Броўкі «Заўсёды з Леніным» і «Між чырвоных рабін», якія атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы за 1969 год.

Я быў на запісе гэтай перадачы. Складаная справа, яна вымагае шмат нерваў і цярпення. Чытаў вершы заслужаны артыст рэспублікі Барыс Барысёнак. Чытальнік ён спрактыкаваны, на радыё не навічок. Але бачу праз шкло студыі, дзе ідзе запіс, як хвалюецца акцёр. А былі ж да гэтага рэпетыцыі, на якіх адточвалася чытанне кожнага радка.

«Я адтуль, дзе з хлебам
Кожны можа быць,
Я адтуль, дзе неба
У чырвані гарыць».

Рэжысёр Соф'я Гурыч спыняе:

— Борачка, дакладней па думцы. І больш натуральна.

Зноў гучыць страфа і зноў нешта не тое. На гэты раз з накладкай музыкі. І вось так радок за радком, верш за вершам дублююцца, не ведаю колькі разоў, пакуль, па думцы рэжысёра, усё не прыходзіць да ладу.

Мы прывыклі вызначаць каштоўнасць любога верша, любога пісьменніцкага слова — багаццем думак і вобразаў, выразнасцю паэтычнай мовы.

Слухаю запіс і думаю, што гэта, мабыць, не ўсё. Калі ласка — толькі акцёрскі голас і музыка,— а верш раптам зайграў новымі фарбамі і ўсхваляваў па-новаму. (Скажу больш, па радыё часам добра гучаць нават слабыя вершы).

Прашу калег пазнаёміць з планамі. Дамінуе ленінская тэма. Толькі за апошні час прагучалі вершы Петруся Броўкі, Пятра Прыходзькі, Міколы Хведаровіча. Мяркуючы па пісьмах слухачоў, поспех мелі, прачытаныя па радыё раздзелы шамякінскай аповесці «Асветлены лёс» — гэты твор таксама прысвечаны ленінскай тэме.

Рыхтуюцца інсцэніроўкі драматызаванай паэмы Пятра Глебкі «Святло з Усходу» і апавядання І. Шамякіна «Хлеб». Будзе зроблены перазапіс паэмы Ул. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» у перакладзе Петруся Броўкі.

Я заўважаю, што даўно не чуў арыгінальных радыёп'ес. Мне адказваюць, што гэта сапраўды «вузкае» месца. Але зараз яно «пашыраецца». Прайшла радыёп'еса Р. Бакіевіча «Каб узышло сонца»—пра маладых падпольшчыкаў у гады Айчыннай вайны. У партфелі рэдакцыі п'еса А. Шлега, прысвечаная рэвалюцыйным падзеям на Беларусі.

— Мы шмат інсцэніруем,— гаворыць старшы рэдактар Інга Алфімава.— Летась, скажам, у нас прайшло каля 30 арыгінальных інсцэніровак апавяданняў, аповесцей, нават раманаў.

Вялікую работу рэдакцыя завяршае зараз. Гэта радыёспектакль у шасці частках па рамане Міхася Лынькова «Векапомныя дні». Пяць частак прагучалі ўжо ў эфіры, апошняя — пройдзе ў першай палове красавіка.

Не перабольшу, калі скажу, што такія рэчы нараджаюцца ў сапраўды творчых ды і ці толькі творчых пакутах.

Наогул, п'еса па радыё — гэта з'ява асаблівая. Я ведаў аднаго маскоўскага драматурга, які з вялікім імпэтам даказваў, што сапраўдную асалоду адчувае толькі тады, калі слухае свае п'есы па радыё. Таму, маўляў, ён не аддае іх тэатрам. Я падазраваў, што яго п'есы не ідуць на тэатральнай сцэне па іншых прычынах. Але, думаю, нейкую рацыю ён меў.

Помню адзін спектакль, які я ледзь даседзеў да канца — усё ў ім раздражняла: і беганіна па сцэне, і рэплікі, і нейкія застылыя маскі на акцёрскіх тварах.

Неўзабаве я пачуў той самы спектакль, амаль з тымі ж выканаўцамі па радыё і, дальбог,— спадабалася. Нібы спектакль прапусцілі праз фільтр, пакінуўшы самае лепшае...

Мабыць, гэтае «фільтраванне» — цяжкая і складаная праца. Я быў толькі на «счытцы» апошняй часткі «Векапомных дзён» і ўбачыў, як гэта цяжка. Уся нагрузка на голас, голас, голас. Тут не дапаможаш сабе жэстам, мімікай, як на сцэне...

Зноў і зноў паўтараюць свае рэплікі, маналогі З. Стома, І. Шаціла, Г. Гарбук, В. Белахвосцік, І. Дашкоўская, М. Захарэвіч і іншыя купалаўцы, занятыя ў спектаклі. Зноў і зноў дае заўвагі рэжысёр Соф'я Гурыч: «Іначка, трошкі сухавата. Ты павінна перадаць гэтымі словамі сваё пачуццё да каханага». «Ванечка, больш цеплыні, яна ж ваша пляменніца» і г. д. і г. д.

— Гэта першы этап работы — самы лёгкі,— расказвае Соф'я Якаўлеўна.—Пасля пойдуць рэпетыцыі, запісы асобных сцэн, масовак, з музыкай, шумамі. І ўсё трэба рабіць дакладна, бо ў тэатры, калі не ўдалося ў адным спектаклі, можна выправіць у другім. Тут, амаль як у кіно — намёртва. Як зрабілі, запісалі, так ужо і будзе.

Работнікі рэдакцыі пахваліліся, і слушна пахваліліся, сваёй фанатэкай. Сапраўды, ёй няма цаны, бо менавіта тут захаваны для нашчадкаў галасы Янкі Купалы, Якуба Коласа, акцёраў Г. Глебава, Б. Платонава, А. Кістава і многіх іншых выдатных майстроў сцэны, якіх ужо няма з намі, запісаны многія спектаклі беларускай сцэны.

Пакідаю Дом радыё ў самы разгар рабочага дня. З-за дзвярэй даносіцца музыка, нечы барытон чытае вершы... Мо гэта рыхтуецца чарговая перадача? Адна з тых, што так усхвалявала тую пажылую жанчыну, з пісьма якой мы пачалі гэты расказ.

М. ЗАМСКІ.

---

# ПАМЯЦІ СЯБРА



Сымон Блатун...

Не верыцца, што яго ўжо няма сярод нас, што мы не пачуем яго задуменна-разважлівага голасу, не паціснем яго даверлівай, таварыскай рукі.

Тым больш крыўдна, што жыццё Сымонава абарвалася на 33-й вясне.

Пры жыцці суджана яму было ўбачыць толькі першы свой зборнік паэзіі «Раўнавага», бо занадта строгім рэдактарам быў ён сваіх вершаў. Карэктуру другога зборніка, нядаўна падпісанага да друку, яму так і не давялося прачытаць.

Сымон думаў пра новыя вершы, марыў напісаць аповесць... Марыў пра новыя паездкі на новабудоўлі, у калгасы, пра новую радасць сустрэчы з людзьмі працы— нашымі сучаснікамі, якіх ён любіў і пра якіх умеў так пранікнёна і паэтычна пісаць у сваіх нарысах, артыкулах, што часта друкаваліся на старонках газет і часопісаў. А яшчэ хацелася Сымону сказаць шчырае слова пра зямлю, дзе ён нарадзіўся і вырас — пра дарагую яму Брагіншчыну.

На стале асталіся незакончаныя вершы, артыкулы, рэцэнзіі...

Смерць абарвала шчырую песню.

Не стала чалавека, жыццялюба па ўсёй сваёй сутнасці, які па-сапраўднаму ўмеў парадавацца, параіць, памагчы... Працуючы літаратурным кансультантам у «Чырвонай змене», ён вельмі прыязна сустракаў кожнае новае імя, даючы дарогу пачаткоўцам у паэзію.

Тое, што зрабіў Сымон Блатун, астанецца ў роднай паэзіі, будзе жыць і хваляваць людскія сэрцы.

Рыгор БАРАДУЛІН, Генадзь БУРАЎКІН, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Янка СІПАКОЎ.

Джэд Кайлі

# ХЭМІНГУЭЙ

### УСПАМІНЫ СТАРОГА ТАВАРЫША

## МЕЦЬ І НЕ МЕЦЬ

Было яшчэ недзе каля апоўначы, таму я прапанаваў паехаць да мяне і выпіць бутэлечку шампанскага.

— Не магу, — сказаў ён. — Я ж табе гаварыў, што ніколі не гуляю, калі працую. Я раблю новую кніжку. Мне трэба паспаць.

— О'кэй, — адказаў я. — Тады я падкіну цябе дахаты. Дзе ты жывеш?

— На Манпарнасе, — сказаў Эрнест.

— А што за кніга? — пацікавілася рыжанькая.

— Зборнік апавяданняў, — адказаў ён.

Я перамахнуў праз мост і звярнуў на бульвар Распай. Значыць, цяпер ён праводзіць серыю кароткіх баёў. Цікава, ці ўключыў ён у зборнік тую рэч, якую я чытаў у бары? «Забойцы» ці як іх там? Спадзяюся, хоць астатняе чытво крыху лепшае.

— А што за апавяданні? — спытаў я.

— Я ніколі не гавару пра свае апавяданні, пакуль іх не напісаў, — адказаў ён. — Варта сказаць пра яго, і апавядання не атрымаецца. Бяда твая ў тым, што ты ў сваім кабаку расказваеш розныя гісторыі, але ніколі іх не запісваеш.

— Точна, — пагадзіўся я.

— Го, а няўжо ж, — працягваў Хэмінгуэй. — Ты ўжо адразу вырашы, кім хочаш быць, пісьменнікам альбо кабатчыкам. Хочаш быць кабатчыкам — малаці языком, хочаш быць пісьменнікам — малаці на пішучай машынцы.

— А ты матай на вус, — сказаў я.

— Навошта? — здзівіўся ён. — Я ж табе не плачу за тое, што ты гаворыш. Сам выкладвай гэта на паперу.

Вы толькі яго паслухайце! Можна падумаць, ён Скот Фітцджэральд альбо нешта накшталт! У Парыжы толькі і размоў, што аб маёй пісаніне ў «Бульвардзье», а ён вучыць мяне, як трэба пісаць. Смехата! Сам, напэўна, апошні шыш без солі даядае, а вучыць мяне жыць, седзячы ў маім жа «кадзілаку».

— А як называецца ваша новая кніга, містэр Хэмінгуэй? — спыталі спадарожніцы.

— «Мужчыны без жанчын», — адказаў ён.

— Як, як? — перапытаў я.

— «Мужчыны без жанчын».

Зноў ні белена, ні солена! Жыць у Парыжы і пісаць кнігу з такой назвай! Спачатку «І ўзыходзіць сонца», а цяпер — «Мужчыны без жанчын». Напэўна, і гэтую назву яму падкінула Гертруда Стайн, падумаў я. А ўслых вымавіў:

— Паслухай, Эрнест. Скажы мне праўду, ты бачыў у Парыжы мужчыну без жанчыны? Ты ж у Францыі, а не ў штаце Ілінойс. Тут ты не сустрэнеш ні мужчыны без жанчыны, ні жанчыны без мужчыны. Не лічачы, вядома, лэдзі Брэт.

— Ля могілак павярні налева, — сказаў ён.

— О'кэй, — сказаў я. — А пакуль мы едзем міма могілак, добранька паглядзі на іх. Калі ты хоць тут знойдзеш мужчын без жанчын — з мяне абед. У тутэйшых мясцінах іх хаваюць поруч, адно ля аднаго. І ў сцюжу, і ў гарачыню мужчыны ў Парыжы побач з жанчынамі.

— Трэці дом ад скрыжавання, — сказаў ён.

Я спыніўся ля яго дома. Гэта была старая цагляная будыніна часоў Другой імперыі. У акне вісела таблічка: «Здаюцца пакоі». Па другі бок вуліцы былі могілкі. Святла ў вокнах не было, але час ад часу дом асвятляўся. На суседнім будынку успыхвала і зноў гасла электрычная рэклама. Яна паведамляла: «Пахавальнае бюро». Разумны чалавек гэты магільшчык, падумаў я. Агні, якія то ўспыхвалі, то гаслі, быццам нагадвалі, што сёння мы жывём, а заўтра нас няма. Перад домам, які стаяў насупраць, быў мармуровы сад. Гэта была майстэрня скульптара-манументальшчыка. Каменныя анёлы і іншыя скульптуры ўсе разам кідаліся на вас, калі вывеска ўспыхвала. Вясёленькае месцейка, падумаў я. Эрнест выскачыў з машыны так, быццам спяшаўся ў Луўрскі палац.

— Мой пакой на пятым паверсе, мілачкі, — сказаў ён. — Заходзьце.

— Спі спакойна, — сказаў я.

Недарэмна ён піша аб тым, як забіваюць людзей, падумаў я. Цалюткімі днямі ён бачыць перад сабой магілы. Ды вы знаеце, што? Трэба аддаць яму належнае — ён заўсёды застаецца самім сабой. У ім няма ніякай знарочыстасці. Узяць хоць бы гэты выпадак. Іншы на яго месцы, каб пусціць пыл у вочы, вылез бы каля гасцініцы «Рыц», а далей пайшоў бы пешшу. Ён не такі. Дазволіў падвезці сябе да самай сваёй нары. Што гэта ў ім? Сумленчасць, саманадзейнасць ці яшчэ што? Мусібыць, упэўненасць у сваіх сілах. Рэдактар адной з херстаўскіх газет расказваў мне, што аднойчы ён падняўся да Хэмінгуэя на яго гарышча і прапанаваў яму рэпарцёрскую работу. Гэта дало б Эрнесту сотні дзве ў тыдзень. Але ён катэгарычна адмовіўся, хаця ў той час нярэдка галадаў. Заявіў, што не хоча, каб нехта указваў яму, пра што трэба пісаць. Хоча, маўляў, жыць жыццём сваіх герояў. Ёсць у ім, бадай, нешта, хоць і не адразу зразумееш, што іменна.

Праўда, адно можна сказаць пэўна. Ён страшэнна працавіты. Я нейк вырашыў наведаць Эрнеста ў яго бярлозе ля могілак. Кансьержка сказала, што ён дома. Я падняўся на пяты паверх і пастукаўся, але ён мяне не ўпусціў. Памочнік магільшчыка, сусед Эрнеста, сказаў, што ён сядзіць запёршыся цэлы тыдзень, правярае карэктуру. І не пускае да сябе нікога. Каву і круасаны пакідаюць для яго ля дзвярэй. Адзінае, што ён сабе дазваляе — гэта прайсці да ванны ў другім канцы калідора. Калі, сапраўды, геніяльнасць — гэта здольнасць цярпець любыя нягоды і нястачы, дык ён і праўда геніяльны, падумаў я.

Але ці працаваў ён, ці не, Эрнест не прапускаў ніводных спаборніцтваў па боксу. Відаць, лічыў гэта не забаўкай, а састаўным элементам трэніроўкі. Мы з ім ішлі ў заклад на дзесяць франкаў, і ён амаль кожны раз выйграваў. Больш мы з ім не гаварылі пра яго кнігі. Якая карысць? Яму ўсёроўна нічога не скажаш, а ён табе нічога не адкажа. Я не злаваўся, калі ён выйграваў. Яму грошы больш патрэбны, вырашыў я.

Калі яго няма на спаборніцтвах, значыць, ён дзесьці далёка. Але дзе, даўмецца немагчыма. Ці то сярод зялёных пагоркаў Афрыкі, ці то на залітых кроўю арэнах Іспаніі, ці то недзе ў Італіі. Напісаць ці хоць проста кінуць у скрынку паштоўку — не ў яго звычках.

Мінула, мусіць, два гады, пакуль я ўбачыў яго зноў.

У лістападзе 1929 года крызіс, адрыкашэціўшы ад сцен Уол-стрыта, з размаху лупцануў па Парыжы. Для амерыканскай калоніі гэта быў тэхнічны накаўт. У янкі, якія кідаліся грашыма направа і налева, у адзін цудоўны дзень кішэні апусцелі. Сорак тысяч амерыканцаў, якія да гэтага часу жылі шыкоўна, біліся, каб зарэзерваваць месца на параходзе, адтоптвалі ногі, каб знайсці дзе грошай на білет.

Нам таксама давялося даволі туга. Я страціў свой кабачок на Манмартры. «Бульвардзье» чытаць не было каму, і часопіс спыніў сваё існаванне. Але перш, чым памерці, ён зрабіў мне паслугу. Мне прапанавалі кантракт у Галівудзе — пісаць сцэнарыі для гукавога кіно. Вельмі дарэчы.

Перш за ўсё мне захацелася пахваліцца сваім поспехам гэтаму разумніку Хэмінгуэю. Бач ты яго, надумаўся вучыць мяне, як трэба пісаць! Цяпер я раскажу яму сёе-тое. Нехта з кінакампаніі «Юніверсаль пікчэрс» прачытаў у «Бульвардзье» маё апавяданне, і за пяць тысяч міль мне паслалі на подпіс кантракт. Мне, а не яму. А яшчэ разлічваў стаць чэмпіёнам. Хто ведае, магчыма, у рашаючым паядынку табе давядзецца сутыкнуцца са сваім старым партнёрам па спарынгу, падумаў я. Мне вельмі хацелася ўцерці яму нос. Я ведаў, што дзе б ён ні быў, ён па-ранейшаму махае кулакамі. Але сапраўдны баксёр заўсёды здолее перамагчы «махавіка» па ачках. Паглядзім, думаў я, як табе спадабаецца гэты галівудскі прамой левай...

## БЫВАЙ, ЗБРОЯ!

Я знайшоў Эрнеста ў Нью-Йорку. Дакладней, ён мяне знайшоў. Я якраз ехаў у Галівуд. У Штатах я не быў дванаццаць гадоў, і вакол майго прыезду газеты паднялі сапраўдны гвалт, друкавалі фатаграфіі і ўсё такое. Эрнест даведаўся аб маім прыездзе і заехаў сам.

Ён падаўся мне чымсьці засмучаным. Але з-за гэтага праклятага крызісу і сухога закона можна было быць засмучаным. Праўда, ён быў паголены і нават падстрыжаны. Больш таго, на ім быў гальштук. Але касцюм быў яму не да твару: рабіў яго падобным на пажарніка, які зняў уніформу. Я разлічваў, што ён пачне віншаваць мяне. Але ён не зрабіў гэтага, толькі сумна ківаў галавой. Я вырашыў, што крызіс зачапіў і яго. Бедалага, з агню ды ў полымя.

— Хэлоў,—сказаў я.

— Хэлоў,—адклікнуўся Эрнест.

— Кепскія навіны?—спытаў я.

— Але,—кіўнуў ён.

— Што-небудзь з кнігай?—пацікавіўся я.

— Не,—сказаў ён.—З табой. Гэта—праўда?

— Што—праўда?—здзівіўся я.

— Што табе даюць усяго пяць соценных?—сказаў ён.

Зноў корчыць з сябе дурня, вырашыў я. «Усяго пяць соценных!» Можна падумаць, што пяць соценных—гэта кот наплакаў. Вырашыўшы, што ён вось-вось і сам расплачацца, я хуценька наліў яму віскі—па дванаццаць долараў бутэлька. Я ведаў, што ён не захоча разбаўляць гэтую вадкасць слязамі. Іду ў заклад, што такога віскі ён у Нью-Йорку і не нюхаў.

— Я палучаю столькі кожны тыдзень,—растлумачыў я.

— Парві свой кантракт,—сказаў ён.

— Навошта?—спытаў я.

— Для мелкай рыбкі Галівуд—могілкі.

У цябе толькі і ў галаве, што могілкі. Я ведаў, што справа тут не ў выпітым віскі. Такі ўжо склад розуму. Яму сапраўды было шкада мяне.

— А сам ты бываў там?—спытаў я.

— Не.

— Ну вось,—сказаў я.

— На мінулым тыдні я адмовіўся ад кантракту, хоць мне прапанавалі ў чатыры разы болей, — працягваў Эрнест.

— Для спартсмена-аматара там неблагі ўлоў, — сказаў я.—Ну, а што, калі б я змог уладкаваць для цябе выгодную справу. Колькі б ты запрасіў?

— Дзесяць тысяч,—сказаў ён.

— У год?—спытаў я.

— У тыдзень.

— Ого!—сказаў я.

Ну што ты з ім зробіш? Ды ці чуў гэта хто, каб калі-небудзь пісьменнік палучаў дзесяць кавалкаў у тыдзень? Гэта ж паўмільёна ў год! Напэўна, жартуе. Калі ўдасца, абавязкова падшукаю яму ў Галівудзе кантракт.

— Што, крызіс здорава лупіць па табе?—спытаў я.

— Які крызіс?—здзівіўся ён.

— Я адкуль ведаю,—сказаў я.—Я чуў, многім тут даводзіцца туга.

— Штосьці не заўважыў. Мой апошні матч прынёс мне кругленькую суму. Бестселер. Купіў яхту і дом у Кі-Уэст. У наступным матчы заваёўваю званне чэмпіёна штата Нью-Йорк.

Я аддаў распараджэнне наконт ільду і закусі. Пасыльны, убачыўшы Эрнеста, увесь расплыўся ва ўсмешцы і, падаючы яму аловак, папрасіў у яго аўтограф. Я хацеў было ўзяць аловак, падумаўшы, што хлопец памыліўся. Бо прыезджай славутасцю быў я. Але пасыльны не выпускаў алоўка з рук і аддаў мне ўзамен вядзерца з ільдом.

— Мне патрэбен аўтограф містэра Хэмінгуэя, — сказаў ён.—За яго я раз плюнуць палучу дзесяць манет.

Здорава гэта ён, падумаў я. Хочуць паздзеквацца з мяне па-сапраўднаму.

— Гэта твой сын, Эрнест?—спытаў я.

— А што—мог бы ім быць,—адказаў ён.

— Я чытаў вашу кніжку «Бывай, зброя!»—прамовіў хлопец.—Здорава!

— Чуў, яе хваляць,—сказаў Эрнест.

— Трэба будзе прачытаць,—сказаў я.

— Не прачытаеш,—сказаў Эрнест.

На другі дзень я сказаў: «Бывай, Нью-Йорк!» На вакзале ў Галівудзе мяне сустрэлі з духавым аркестрам і ўрачыста праводзілі на студыю. А пасля на мяне забыліся. Я амаль развучыўся гаварыць. Мяне толькі і пыталі, колькі я зарабляю. І калі чулі суму, на гэтым гаворкаканчалася. Нейк я сустрэў свайго даўняга чыкагскага прыяцеля, рэпарцёра Чарлі Мак-Артура. Ён сказаў, што палучае два кавалкі ў тыдзень. Я не паверыў, пакуль не ўбачыў на свае вочы

Працяг. Пачатак у № 27.

По той бок

# СЕКС × СЕКС = БІЗНЕС У КВАДРАЦЕ

Жаночыя ножкі, як сцвярджаюць заходнія дзялкі, маюць дзівосную прынадную сілу. І таму даўно ўжо выкарыстоўваюцца як універсальная рэклама. З іх дапамогаю «больш паспяхова» збываюцца аўтапакрышкі і электралямпачкі, штучныя кветкі і зубы.

Там, дзе для нажывы гатовы на ўсё, самыя нізкія жывёльныя інстынкты культывуюцца з сапраўды «індустрыяльным» размахам. У сферу гэтай «вытворчасці» ўцягваюцца ўсе віды мастацтва: літаратура, тэатр, кіно, тэлебачанне, выяўленчае мастацтва і нават музыка.

«Хваля парнаграфіі захліснула Федэратыўную Рэспубліку», — вымушаны прызнаць заходнегерманскі часопіс «Шпігель». Адзін з яго апошніх нумароў амаль цалкам прысвечаны гэтай праблеме.

«Гэтае зло,—піша часопіс, — прыйшло да нас з Даніі пасля таго, як там былі афіцыйна адменены ўсе законы, якія абмяжоўваюць распаўсюджанне парнаграфіі. Людзі, якія захавалі сумленне і сорам, пабудавалі помнік з надпісам «Тут пахаваны сорам датчан, забіты ў чэрвені 1969 года». А цяпер і ў ФРГ больш за 20 тысяч чалавек з'яўляюцца пастаяннымі заказчыкамі і спажыўцамі гэтай прадукцыі».

Апроч паштовак вельмі фрывольнага зместу, з'явілася многа рэпрадукцый, кароткаметражных фільмаў, грампласцінак адпаведнага напрамку. Па ўсім «свабодным» свеце расцякаюцца цяпер брудныя патокі кніг, брашур, часопісаў эратычнага характару. Агульны тыраж гэтых выданняў толькі ў ФРГ перавысіў мільён экземпляраў.

Высокія чыны боннскай паліцыі і юстыцыі канстатуюць, што хоць у краіне законы фармальна забараняюць усю гэту агіднасць, але практычна змагацца з ёю ўжо «немагчыма».

«Трывогу» б'е ўжо і другі друкаваны орган ФРГ, шпрынгераўская «Ды Вельт». Адзін з апошніх нядзельных дадаткаў гэтай газеты, які называецца «Духоўны свет», адкрываецца артыкулам аб тым, што надышоў «трыумф сексу»:

«Голая пара стаіць ужо на парозе і стукае ў дзверы сямідзесятых гадоў...» Татальнае знішчэнне абмежаванняў у сексуальнай сферы, ліквідацыя «табу» ва ўсіх раней забароненых і тайных галінах чалавечых адносін разбурылі ўсе ўяўленні аб сораме і маралі, якія раней існавалі. Гэтым жа заражана ўжо ўсё мастацтва! Чалавечае цела, як тэма, як аб'ект агляду перайшло з выяўленчага мастацтва на экраны і падмосткі нашых тэатраў і трывала там асталявалася».

Газета ўспамінае, што, калі яшчэ ў пачатку пяцідзесятых гадоў у адным з берлінскіх тэатраў пры інсцэніроўцы «Ночаў Вальпургіі» на зацемненай сцэне з'ўлялася голая дзяўчына, гэта здавалася вяршыняй смеласці. «А цяпер,— працягвае газета,—нікога ўжо нельга здзівіць трыко цялеснага колеру, і таму ўжо ўсё часцей пагарджаюць нават гэтым «фігавым лістком».

Другі дадатак гэтай газеты, «Свет літаратуры», падводзіць некаторыя вынікі ў літаратурным жыцці Захаду за мінулы год. У карэспандэнцыі з Нью-Йорка пад загалоўкам «Секс і мафія» расказваецца пра попыт на кнігу «Машына кахання» Жаклін Сузан, кнігу са шматлікімі адкрыццямі і падрабязнасцямі з самай інтымнай галіны чалавечых адносін.

Другая заходнегерманская буржуазная газе

